

Андрэй СЦЕПАНЮК ➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Эпідэміі, заразы... ➔9

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 25 (3345) Год LXV

Беласток, 21 чэрвеня 2020 г.

Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Шануем сваіх мучанікаў

**У кастрычніку мінулага года Сабор епіскапаў Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы далучыў вазакоў, забітых без прысуду каля Пухалаў-Старых атрадам Нацыянальнага вайсковага згуртавання пад камандаваннем капітана Рамуальда Райса, псеўданім «Буры» да ліку святых мучанікаў Холмскай і Падляшскай зямлі. Былі гэта гаспадары з Краснага Сяла, Збуча, Чыжоў, Падрэчан, Ракавіч, Лазіцаў, Арэшкава, Пасечнікаў, Ягаднік, Махнатага, Крывой, Залешан і Вулькі-Выганоўскай. Іх мошчы знаходзяцца зараз у брацкай магіле на вайсковых могілках у Бельску-Падляшскім. У час веснавога пасяджэння Сабор епіскапаў Праваслаўнай царквы ў Польшчы далучыў да ліку святых мучанікаў Холмскай і Падляшскай зямлі пакутнікаў забітых атрадам «Бурага» ў Занях і Шпаках. Ёсць надзея, што ў будучыні далучаны да ліку святых мучанікаў будуць асобы забітыя гэтым атрадам у Залешанах, Вульцы-Выганоўскай і іншых мясцовасцях. З 2003 года свята ў гонар святых мучанікаў Холмскай і Падляшскай зямлі адзначалася ў першую нядзелю чэрвеня. Аднак у гэтым годзе свята выпала на першы дзень Святой Тройцы і таму цэнтральныя сватканні ў Польшчы былі перанесены на другую нядзелю, 14 чэрвеня. Асобыя малітвы ўзносяцца да нашых святых мучанікаў у нядаўна збудаванай царкве святых мучанікаў Холмскай і Падляшскай зямлі ў Збучы — філіяльным храме Успенскага прыхода ў Чыжах, з якога выводзіліся некаторыя вазакі забітыя каля Пухалаў-Старых.**

Мы цяпер радуемся, што ў цэрквах можам маліцца да нашых святых мучанікаў, якія жылі ў вёсках Гайнаўшчыны і Бельшчыны, працавалі так як нашы продкі, выхоўвалі сваіх дзетак, радаваліся жыццю разам са сваімі равеснікамі. Цяпер праваслаўныя вернікі сталі прасіць у нашых мучанікаў заступніцтва ў Бога і дапамогі ў хваробах, вучобе, вырашэнні складаных сямейных праблем і падтрымкі ў іншых жыццёвых выпрабаваннях. Частка нашчадкаў святых мучанікаў жыве яшчэ ў нашых вёсках, але большасць іх ужо пражывае ў гарадах. Яны расказваюць пра сваіх продкаў, якія былі забіты на зломе студзеня і лютага 1946 года.

— Калі народ траціць сваю памяць, ідзе ў разброд і няма ў яго будучыні. Народ без памяці, гэта не народ. Нам хочуць навязаць іншую памяць, чым тую, якую ведаем. Мы павінны знаёміць нашых жыхароў з нашай памяццю, якая будзе вырашаць аб тым, кім мы будзем у будучыні, — лічыць прафесар Алег Латышонак, гісторык Універсітэта ў Беластоку і старшыня Беларускага гістарычнага таварыства.


Царква святых мучанікаў Холмскай і Падляшскай зямлі ў Збучы

https://pl.m.wikipedia.org/

Прафесар Алег Латышонак даследуе падзеі звыш 74-гадовай даўнасці, калі на зломе студзеня і лютага 1946 года падчас пацыфікацыі нашых вёсак атрадам «Бурага» загінула звыш 50 чалавек, і гісторыю забойства 30 вазакоў атрадам «Бурага» каля Пухалаў-Старых, якія першапачаткова былі ўключаны ў лік святых мучанікаў. Рамуальд Райс пасля вайны быў прысуджаны да смерці і прысуд быў выкананы, але ў 1995 годзе суд Варшаўскай вайсковай акругі адмяніў прысуд. Аднак пасля пазнейшага расследавання праведзенага Інстытутам нацыянальнай памяці атрад Рамуальда Райса «Бурага» быў прызнаны вінаватым у пацыфікацыі вёсак Залешаны, Вулька-Выганоўская, Шпакі, Зані і Канцавізна ў 1946 годзе і ў смерці каля 50 жыхароў гэтых вёсак і 30 вазакоў. У канцы студзеня і ў пачатку лютага гэтага года ў Гайнаўскім і Бельскім паветах ушаноўвалася памяць звыш 80 жыхароў нашых вёсак, у асноўным праваслаўных беларусаў, якія 74 гады таму былі забіты і спалены атрадам «Бурага». Тады асаблівыя малітвы ўзносіліся да святых мучанікаў у Пакроўскай царкве і перад магілай і помнікам на вайсковых могілках у Бельску-Падляшскім, дзе пакояцца іх мошчы. Сабраныя там вернікі адчувалі асаблівую радасць, што нашы нявінна забітыя гаспадары цяпер уключаны ў лік святых і хадайнічаюць за нас перад Богам.

Калі будзем маліцца да нашых святых мучанікаў і будзем атрымліваць ад іх дапамогу, культ падляшскіх мучанікаў будзе пашырацца. У Збучы ўзведзена царква святых мучанікаў Холмскай і Падляшскай зямлі, якая належыць Успенскаму прыходу ў Чыжах. Па выбраных нядзелях у царкве ў Збучы служацца літургіі і мясцовае насельніцтва, нашчадкі забітых вазакоў і астатнія паломнікі ўзносяць малітвы да святых мучанікаў Падляшскай зямлі, забітых на тэрыторыі сённяшніх Бельскага і Гайнаўскага паветаў. Просяць яны нашых святых мучанікаў дапамагчы ў розных жыццёвых выпрабаваннях або ўжо дзякуюць за іх дапамогу. З Чыжоўскага прыхода родам Валянціна Кярсноўская, якая зараз жыве ў Гайнаўцы. Узрастала яна ў Падрэчанах і калі яшчэ была дзяўчынкай, страціла бацьку Фёдара Якімюка, які цяпер уключаны ў лік святых мучанікаў Падляшскай зямлі.

— У брацкай магіле на вайсковых могілках у Бельску-Падляшскім разам з іншымі вазакамі, забітымі каля Пухалаў-Старых, ляжыць мой бацька Фёдар Якімюк з Падрэчан. Мы пра бацьку гаравалі вельмі доўга, а зараз я рада, што можам маліцца да яго, як да святога мучаніка і прасіць у яго дапамогі, — сказала Валянціна Кярсноўская з Гайнаўкі, якая разам са сваім мужам Янам удзельнічае ва ўрачыстасцях у гонар забітых вазакоў. — Мы доўга не ведалі, што сапраўды здарылася з бацькам. Маці вельмі моцна сумавала па ім. Нам тады было вельмі цяжка жыць, а маме самой выхоўваць чацвёра дзетак. Немцы перасялілі нашу сям'ю на іншае месца і пасля вайны без бацькі, каня і воза трэба было ўсё нажываць на панадворку, на які вярнуліся. Не толькі не далі нам кампенсацыі па страце бацькі, але і брата забралі ў войска і не дазволілі, каб мог гаспадарыць і нас утрымліваць. Калі маці даведалася, што бацьку забілі, вельмі хацела знайсці яго магілу, забраць косці і перавезці іх бліжэй дома. Аднак мама памерла і не дачакалася таго часу, калі астанкі вазакоў можна было перавезці ў Бельск, пахаваць у брацкай магіле і паставіць помнік. Мужчыны забіты атрадам «Бурага», сярод якіх быў мой бацька Фёдар, загінулі нявінна за тое, што былі праваслаўнымі беларусамі. Многа добрых людзей дапамагала ў нашай супольнай справе. Журналісты розных медыя таксама выканалі вялікую працу, расказваючы аб трагічнай смерці вазакоў, перапахаванні іх астанкаў і апісваючы ўрачыстасці ў гонар вазакоў, цяперашніх святых мучанікаў Падляшскай зямлі.

— У майго цесця быў добры конь і ён паехаў у лес на пазычаным возе. Апасаўся таксама, каб у час уцёкаў яго не застрэлілі, паколькі дома пакінуў жонку і чацвёра дзетак. Сямейнікам ахвяр «Бурага» не далі ніякай кампенсацыі за смерць блізкіх асоб, а тых з атрада «Бурага» робяць героямі і іх сямейнікам выплацілі кампенсацыі. Аднак мы дачакаліся, што можам зараз маліцца да нашых вазакоў, ахвяр атрада «Бурага», як да святых мучанікаў нашай зямлі, — гаварыў Ян Кярсноўскі з Гайнаўкі.

— Мой дзядуля Міхал Ляшкевіч быў забіты каля Пухалаў-Старых, як і іншыя праваслаўныя жыхары Краснага Сяла, а ўсе каталікі з гэтай жа вёскі атрымалі дазвол вяртацца дамоў, — сказаў унук Юры Ляшкевіч.

— Мая сваячка Надзя выйшла замуж за Яна Шуецкага з Арэшкава, якога бацька Ян Шуецкі быў разам з іншымі вазакамі, якія прыехалі ў Лазіцы па дровы. Забраны быў ён польскім атрадам і, як пасля аказалася, быў забіты каля Пухалаў-Старых. Цяпер прозвішча цесця маёй сваячкі высечана на помніку на вайсковых могілках у Бельску-Падляшскім, побач брацкай магілы, дзе ён перапахаваны разам з іншымі вазакамі. У Яна Шуецкага было хіба сямёра дзяцей, а сярод іх малыя дзеткі, якія маці сама мусіла выхоўваць пасля страты мужа, — расказала былая жыхарка Арэшкава.

— Майму бацьку ўдалося ўцячы па дарозе. Адзін з тых, што пільнавалі вазакоў, даў параняць бацьку, што павінен уцякаць і адышоў ад яго. Бацька і яшчэ другі мужчына рашыліся ўцякаць і раздзяліліся. Бацьку ўдалося вярнуцца дамоў, — расказаў мне сын аднаго з вазакоў, зараз жыхар Гайнаўкі.

Было яшчэ некалькі асоб, якім удалося ўцячы. Аднак страх перад тымі, якія арыштавалі іх у Лазіцах і гналі ў напрамку Пухалаў-Старых быў настолькі вялікі, што доўга апасаліся расказваць пра згаданыя здарэнні з мінулага.

Саборам епіскапаў Праваслаўнай царквы ў Польшчы асобыя святкаванні ў гонар святых мучанікаў Падляшскай зямлі былі ўстаноўлены на апошнюю суботу ліпеня і маюць адбывацца ў Жаночым манасхім доме святой велікамучаніцы Кацярыны ў Залешанах, дзе тады праходзіць святкаванне ў гонар Залешанскай іконы Божай Маці.

— Паўстае пытанне, за што нам усё гэта зрабілі ў Залешанах? Аднак, каб будаваць лепшую будучыню, трэба прабачыць правіны. У атрадзе «Бурага» быў сапраўдны герой, якога паставілі пільнаваць падпаленую хату ў Залешанах з сагнанымі туды людзьмі. Ён, страляючы ўверх і пускаючы ўцякаць людзей, рызыкаваў сваім жыццём, — лічыць Сяргей Нічыпарук, родам з Залешан, бацька ігуменні Кацярыны, якая кіруе дзейнасцю Жаночага манаскага дома ў Залешанах. 29 студзеня 1946 года іх сям'я найбольш пацярпела.

У час пацыфікацыі і спалення вёскі Залешаны атрадам «Бурага» былі застрэлены або згарэлі 16 асоб, у тым ліку дзеткі і жанчыны. Да гэтай пары ў час летніх святкаванняў сабраныя маліліся за ўпакаенне душ забітых. Праваслаўныя вернікі спадзяюцца, што ўжо хутка будзем маліцца да іх як да святых мучанікаў Падляшскай зямлі.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**





# „Вырабы” і варыянты фіналу

Пасля прыходу да ўлады Аляксандра Лукашэнкі за больш чым чвэрцьстагоддзя было некалькі вырашальных і ключавых гадоў, характэрных адзнак і пунктаў адліку. Для таго, каб збоку паспрабаваць зразумець падзеі і сітуацыю бягучага часу, варта іх прыгадаць.

1995-96 гады. Здзейснены па сутнасці антыканстытуцыйны пераварот. У красавіку 1995 года на загад выканаўчай улады ў беларускім парламенце былі жорстка збітыя дэпутаты Вярхоўнага Савета ад апазіцыі, якія напярэдадні абвясцілі галадоўку супраць антыканстытуцыйных захадаў прэзідэнта. Услед у траўні ў Беларусі адбыўся антыканстытуцыйны рэферэндум, які змяніў дзяржаўную сімволіку, надаў расейскай мове статус дзяржаўнай, зрабіў змены ў Канстытуцыю і ў выніку права прэзідэнту распускаць парламент, пастанавіў пра эканамічную інтэграцыю з Расеяй. У лістападзе 1996 года з удзелам расейскіх вышэйшых дзяржаўных асоб быў сарваны імпічмент прэзідэнту Лукашэнку. Паўнамоцтвы Вярхоўнага Савета 13-га склікання былі гвалтоўна спынены. Антыканстытуцыйны пераварот быў завершаны. Юрыдычных механізмаў змены ўлады не засталося.

1999 год. У траўні бясследна знік Юрый Захаранка, вядомы палітык, былы міністр унутраных спраў. Пачатак шэрагу знікненняў апазіцыйных дзеячаў. У верасні таго ж года назаўсёды прапалі палітык Віктар Ганчар і бізнесовец Анатоль Красоўскі. Паводле неафіцыйнай версіі ўсе яны былі забіты так званым „эскадронам смерці”. У выніку ціску міжнароднай супольнасці і ўнутраных пратэстаў фізічнае знікненне сур’ёзных лідараў апазіцыі ўдалося спыніць, але кантроль над уладай быў ужо трывала толькі ў адных руках.

2006 і 2010 гады. Дзве выбарчыя кампаніі, калі народныя пратэсты супраць узурпацыі ўлады завяршаліся Плошчай пратэсту. Абедзве плошчы былі жорстка разагнаныя, завяршыліся крымінальнымі справамі, масавымі арыштамі, збіваннямі, катаваннямі, урэшце дэмаралізацыяй і эміграцыяй многіх лідараў, а таксама актывістаў дэмакратычнага руху. Пры той брутальнасці задушэння пратэсту, толькі цудам нікога не забілі.

І вось надышоў яшчэ адзін ключавы год. Год чарговых „вырабаў”, якія планавалася аформіць падобна 2015 году з удзелам статыстаў „элегантна”, як казаў кінагерой „без шуму і пылу”. Але ўсё пайшло не так. Пандэмія, рэзкае збядненне людзей і як вынік моцны і масавы псіхалагічны стрэс прывялі да нябачнай актыўнасці грамадства. У выніку трон захістаўся, а мы апынуліся на парозе сур’ёзных падзей. Аднак, нейкага аптымістычнага сцэнарыя фіналу гэтых „вырабаў”, на жаль, не праглядваецца. Адзін з лідараў народнага пратэсту Сяргей Ціханоўскі ўжо ў турме, навісла пагроза і над іншымі прэтэндэнтамі ў кандыдаты. На жаль, з вуснаў асноўных цяперашніх апанентаў начальніка дзяржавы не было чуваць галоўнага патрабавання — утварэння новай Цэнтральнай выбарчай камісіі і прызначэння перавыбараў без удзелу „пажыццёвага кіраўніка”. А ўвязацца ў гульню без правіл і выйграць немагчыма. Хіба толькі ў ходу падзей умяшаецца яго вялікасць Выпадак.

Варыянты палітычнага канца „вечных гарантаў стабільнасці” разнастайныя, у гісторыі здаралася ўсялякае. Зараз актыўна абмяркоўваюцца розныя зыходы: „варыянт Чавушэску”, „варыянт Кадафі”, „варыянт Мілошавіча”, „варыянт Януковіча”, урэшце „варыянт Карымава”. Пра тое, што „можам паўтарыць” андыжанскія падзеі заявіў сам начальнік Рэспублікі Беларусь. Напомнім, што ў траўні 2005 году ва ўзбекскім горадзе Андыжан праходзілі масавыя пратэсты з патрабаваннем эканамічных рэформ і сацыяльнай справядлівасці. Выступ быў жорстка задушаны, пры тым расстраляныя каля тысячы чалавек. Іслам Карымаў кіраваў пасля гэтага яшчэ 11 гадоў. Агулам ён трымаў уладу ва Узбекістане ажно 27 гадоў, памёршы ад хваробы і нямогласці. Тое, што ў Беларусі ў разе абвастрэння сітуацыі будзе аддадзены загад страляць — няма ніякага сумневу. Гэта па-першае. Па-другое, пакуль пры ўладзе ў Маскве будзе Пуцін, варыянт суда ў Гаазе Лукашэнку ніяк „не свеціць”. Крэмль лічыць Беларусь сваёй тэрыторыяй і не дапусціць сюды ніякіх заходніх структур і сур’ёзных уплываў. Масква ўсё будзе імкнуцца вырашыць сама. А калі яна „ў працэсе” — нічога добрага чакаць не даводзіцца.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Прыгажосць закона і справядлівасці

Мы патрабуем „каб было лепей”. Толькі ад каго мы гэта просім? Можа, варта ад саміх сябе? Верагодна, гэта і так, хаця мы становімся ўсё больш і больш патрабавальнымі ў гэтым плане. Таму мы хочам, каб было яшчэ лепш — у жыцці і ў палітыцы. І так, пакаленне за пакаленнем. Хто ведае, ці не таму, што кожнаму наступнаму пакаленню жывецца лепш, але не настолькі, што катэгарычна нельга сказаць, што, безумоўна, горш ад папярэдняга. Таму што сапраўды не скажаш. Аднак недастатковасць захоўваецца ў кожнага пакалення. І што яшчэ горш, яна ператвараецца ў енчанне. Нягледзячы на тое, што крывая дабрабыту чалавека, нягледзячы на пастаянныя ваганні, не ўзрастае? І гэта факт. На жаль, у кожным пакаленні былі некаторыя выродкі, якія спрабуюць гэта адмовіць. Як высвятляецца, яны ў асноўным палітыкі. Не абавязкова празорцы — хутчэй самазванцы. Але пра тых у іншы час. Статыстычна кажучы, у параўнанні з кожным пакаленнем, якое ідзе, наступнае жыве даўжэй і прасцей, здаравей, бяспечней і прыемней. Аднак статыстыка мае ў сабе тое, што яна разглядае доўгатэрміновыя працэсы і ігнарує індывідуальную шкалу жыцця чалавека.

Кожны з нас робіць лепш, часам горш і часцей за ўсё не таму, што мы робім дрэнны ці добры выбар, які ўплывае на бліжэйшую будучыню, а таму, што мы альбо ўдалыя людзі, альбо проста няўдачнікі. Як варыянт, нараджаюцца непаўнавартасныя матэрыялы. У рэшце рэшт, сённяшнія няўдачнікі альбо непаўнавартасныя матэрыялы, безумоўна, лепшыя, чым мінулыя. Гэтага нельга адмаўляць, што ўсё паляпшаецца для нас у цэлым. Праблема ў тым, што не знойдзецца чалавека, які быў бы рады гэтаму. У кожнага свая «метралогія», і калі аднаму адзін сантыметр больш гэта шмат, для астатніх нават 10 метраў усё яшчэ здаецца занадта мала. Хоць гэта гучыць недарэчна, статыстыка робіць усё проста, і прыклад розніцы паміж сантыметрам і 10 метрамі абагульнае, скажам, да 2 метраў на аднаго статыстычнага чалавека. Зразумела, не так шмат людзей будзе адчуваць сябе задаволенымі гэтым падзелам, таму што гэта толькі статыстычная ісціна, а не самая праўда. Як мала хто ў мінулым быў задаволены ідэалогіяй бальшавіцкай роўнасці, тэарэтычная інтэрпрэтацыя якой заключалася ў тым, што ўсе павінны быць роўнымі, але, як паказала практыка, яны яшчэ больш роўныя сярод іх. А тыя не мелі прычын скардзіцца. Так было да сённяшняга дня, хаця бальшавіцкая мара аб несправядлівай справядлівасці тых, хто больш раўнапраўны, ужо даўно падманула. Не ўсіх. У кожнай палітычнай сістэме ўзнікаюць новыя ўспышкі яе таксічнай ідэалогіі. Нават у моцных дэмакратыях, як сведчыць рост народнага папулізму ў краінах заходняй цывілізацыі. Італія, Францыя і Вялікабрытанія заражаныя гэтым. ЗША не супрацьстаяць яму, а тым больш Польшча. Гэта проста відовішчныя прыклады, таму што папулізм — гэта пандэмія. Я адважуся сказаць, што справядлівасць як паняцце прыгожая толькі як паняцце, але на самой справе гэта проста смецце для тых, хто прайграў, і, тым больш, што гэта канцэпцыя, створаная чалавечым розумам, супярэчыць логіцы існавання чалавечага віду. Відавочна, што мацнейшы паядае слабейшага, кошка мышку, воўк ягня, а ягня траву. І, нарэшце, відавочная рэч, што закон раўнейшага пажырае закон проста роўнага. Доказам гэтага горкія словы юрыдычнага аўтарытэта праф. Эвы Лэнтоўскай у інтэрв’ю парталу ОКО.press: «Гадамі я кажу, што закон не рэгулюе таго, што ён абвяшчае, але толькі тое, што ўдаецца мацнейшаму, які карыстаецца законам інструментальна». Набліжаюцца выбары Прэзідэнта Рэспублікі Польшча. Аднак я не збіраюся палітызаваць гэты тэкст. Я не збіраюся пераконваць каго-небудзь у тым ці іншым выбары. Я толькі адзначу, што закон эвалюцыі Дарвіна распаўсюджваецца не толькі на саму Прыроду. Таму і на палітыку, і на нашу грамадзянскую будучыню таксама.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Нумары бесчалавечнасці

Ну і дачакаліся. Каранцінная эпоха дзяржаўных абмежаванняў у відавочным адступленні, чаго аднак нельга сказаць пра патушэнне самой вірусная эпідэміі. Здаецца — парадокс, але не. Чалавечая свабода і непрадбачлівая эканамічна-сацыяльная будучыня не дазваляюць пакуль на даўжэйшую мэту на безупыннае трыманне пад кантролем сусветнай супольнасці. Пэўна неўзабаве ў пааcобных дзяржавах будзем мець дачыненне з паўторным абмежаваннем чалавечай актыўнасці ў вядомую нам усім самаізаляцыю. І пэўна чакае нас не адна пандэмія змутаваных, новых невядомых вірусаў заанознага паходжання. Усё, на жаль, будзе прымаць вельмі хутка глабальнае вымярэнне. Тое, якія хваробы і заразы будуць нас скручваць у блізкай ці далейшай будучыні, як той лісток на дрэве, становіцца не футуралагічным пытаннем, а звычайным выжываннем. На яшчэ жывыя ўласныя вочы можам пабачыць, што ўсе гэтыя біятэхналагічныя рэвалюцыі і навуковыя поспехі не прыносяць пачуцця ўнутранай чалавечай бяспечнасці і свабоды, а наадварот, пазбаўляюць яго якой-колечы самаўпэўненасці і кантралюючы у бачны і нябачны спосаб наша жыццё ў кожным яго вымярэнні. Ці наступныя пакаленні здольныя на бунт супраць такой цывілізацыйнай перспектывы? Ці іх неўратычнае сеціва арганізмаў ужо зараз ментальна запраграмаванае і прыстасаванае да падпарадкавання свету бязмежнага, бездухоўнага скарыстання як грамадскіх прылад, а не выяўлення сябе ў творчым вымярэнні з усімі яго поспехамі і падзеннямі? Часта ў такой сітуацыі гаворыцца, што час пакажа, але многія пісьменнікі і кінаржысёры ўжо даўно паказалі нам такі ход развіцця падзей, дзе самі людзі менавіта па сваёй ненасытнасці ствараюць сабе безупынна філасофію, ідэалогію і патрэбу самазнішчэння чалавечага роду. Не інакш і зараз. У сучасным свеце ў руках часта ўжо шаленцаў знаходзіцца такая колькасць біялагічнай, хімічнай, касмічнай зброі, што аж многім проста рукі свярбяць, каб пакаштаваць смаку трыумфальнага яе скарыстання. Бо мы ж, людзі, не павінны мець ніякай чалавечнасці, ні гуманнасці, ці нават хрысціянскіх каштоўнасцей. Мы толькі з’яўляемся статыстычнымі мільёнамі са сваімі пін-кодамі, ці кодамі хвароб. Калі ты зараз без пін-кода, то ўжо з’яўляешся выключанай з грамадства адзінкай. Няважны тваё імя, прозвішча, эмоцыі. Без умоўнай сістэмы знакаў і лічбаў ты ўжо не чалавек. Абавязковая зараз самашыфраванасць ужо з самога дзяцінства вядзе нас усіх у поўнае мора чалавечай ананімнасці і яго такога ж самага знікнення. Без увагі, памяці ці некалькіх чалавечых слёз. Бяспамяцтва і бесчалавечнасць — ідэальная мадэль людской структуры будучыні. А тады ў камп’ютарах розных устаноў, дзе скадыфікаванае наша жыццё, адным клікам можам быць адключаны ад... жыццядайнага, віртуальнага сеціва. І такім чынам ад вады, сонца, ветру, прыроды. Ад быцця ў жывых. І аніякіх пытанняў маральнай натуры ў такім шаленстве не будзе. Проста, масавы таталітарны кантроль і генетычная сегрэгацыя. У гістарычным мінулым парадкавую нумарацыю дзяржавы ўвялі ў турэмныя сістэмы, дзе вязні атрымлівалі свае статыстычныя нумары, якія станавіліся неад’емнай часткай іхняга зняволення. У нядаўняй гісторыі такую „дапрацаваную” развязку прымянялі гітлераўскія немцы, якія ў сваіх канцэнтрацыйных лагерах вынішчэння чалавецтва ў першую чаргу татуіравалі вязням на руцэ яго статыстычны нумар. З гэтай пары меў быць ён пазбаўлены чалавечай годнасці — імя, прозвішча і гісторыі свайго роду. Людзі мелі быць нікім і жыць столькі, на колькі дазволіць створаная сістэма вынішчэння і добры ці дрэнны гумар ката. Расстрэлы, вешанні, смерць у газавых камерах і спальванне цел у крэматорыях, псеўдамедычныя і біялагічныя эксперыменты, вынішчальная фізічная праца гэта пякельная рэчаіснасць у такіх месцах. Не інакш было з падбітымі народамі на акупаваных немцамі тэрыторыях. Экстэрмінацыя жыдоў, а потым звядзенне славян у катэгорыю недалюдзей, рэальнасць і вынік пошукаў нямецкай, жыццёвай прасторы рабіліся пад лозунгам новай Еўропы народам, якія так ганарыўся сваёй гісторыяй і культурай.

**Яўген ВАПА**

Настаўнікі роднай мовы

# Веру ў нашу беларуска-падляшскую трываласць



— **Чаму Вы сталі настаўнікам беларускай мовы?**

— У канчатковым перыядзе навукі ў ліцэі разам з групай сяброў мы „даспелі” да сваёй беларускасці. У выніку таго я вырашыў памяняць свае планы і не паступіў на польскую філалогію, аб якой думаў даволі даўно, а на беларускую. А настаўнікам стаў таму, што не вырашыў быць (чаго крыху шкадую) журналістам беларускай перадачы Беластоцкага радыё, хаця такая прапанова была.

— **Хто для Вас ідэал настаўніка роднай мовы?**

— Гэта настаўніца Бельскага белліцэя спадарыня Зінаіда Дэмянюк. Яна сваёй працай і сваім характарам паказала мне, маладому настаўніку, як вялікая розніца ў навучанні беларускай мовы а іншых прадметаў. Веру, што па яе слядах ідзе дачка Анна Дэмянюк, цяперашняя настаўніца беларускай мовы ў нашым ліцэі.

— **Ці супрацоўнічаеце з настаўнікамі беларускай мовы ў іншых школах? Калі так, назавіце сваіх сяброў.**

— Маё сапраўднае навучанне беларускай мове закончылася даволі даўно, таму галоўным чынам супрацоўнічаю з настаўнікамі бельскай „тройкі”, калі арганізую вусны матуральны экзамен. Вельмі добра ўспамінаю супрацоўніцтва з маім сябрам з Гайнаўкі Янкам Карчэўскім з нагоды падрыхтоўкі і правядзення школьных конкурсаў для пачатковых школ.

— **Якія арганізацыі і ўстановы, паводле Вас, найбольш дапамагаюць?**

— Цаню асабліва тое, што робяць АБ-БА, Беларускае гістарычнае таварыства і ў галіне школьных конкурсаў БГКТ.

— **Ці ведзяце ў школе беларускія праекты для сваіх вучняў? Калі так, назавіце іх.**

— Самы важны гэта кожны год Дзень Волі. Шкадую, што не змаглі мы яго правесці ў 2020 годзе.

— **Ваш любімы беларускі конкурс?**

— Не конкурс, а алімпіяда па беларускай мове для ліцэістаў. Яе стваральніку прафесару Аляксандру Баршчэўскаму належыцца вялікая падзяка.

— **Ці можаце разлічваць на дапамогу бацькоў, асяроддзя?**

— Без бацькоў школы проста няма. Пачынаючы з супрацоўніцтва ў вырашэнні вучнёўскіх праблем, а закончыўшы на дапамозе тыпова матэрыяльнай, без якой цяжка існаваць на задавальняючым узроўні.

— **Ці навучанне на прынцыпе добраахвотнасці для вас складанасць ці, можа, козыр?**

— Надалей лічу, што ў выпадку такой школы як наша, добраахвотнасць павінна канчацца ў хвіліну, калі вучань вырашае паступіць у гэты, а не іншы ліцэй.

— **Ці можаце зрабіць усё за тры гадзіны ў тыдзень, што раней запланавалі?**




Фота: Аляксандра Зінкевіч www.lozbjn.edu.pl/www.lozbjn.edu.pl

**Андрэй СЦЕПАНЮК** нарадзіўся 6 лістапада 1963 года ў Бельску-Падляшскім. Тут закончыў Пачатковую школу № 3 і Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча. Далей паступіў на беларускую філалогію Варшаўскага ўніверсітэта. Пасля трох гадоў працы ў бельскай бурсе вярнуўся ў свой ліцэй як настаўнік беларускай мовы. У 1994-2002 гадах быў бургамістрам Бельска-Падляшскага. У 2004 годзе стаў першым дырэктарам — выпускніком Бельскага белліцэя. Выдаў зборнік вершаў „Распісаны квадрат”. Бельскую „тройку” і белліцэй закончылі таксама жонка Валя (зараз настаўніца геаграфіі ў „тройцы”) і сын Міхал.

— Добры настаўнік навучыць больш у адну гадзіну, чым кепскі ў тры ці чатыры.

— **Ёсць у Вас лаўрэаты прадметнага конкурсу? Калі так, назавіце іх лік.**

— Падрыхтоўку вучняў да конкурсаў і алімпіяд астаўляю сваім настаўнікам.

— **Ці, паводле Вас, падручнікі па беларускай мове дапасаваныя да сучаснасці?**

— За рэдка працую з падручнікамі, каб іх ацэньваць. Але вельмі цешуся, што ад нейкага часу ёсць у нас свае падручнікі для ўсіх класаў.

— **Ваш любімы падручнік па беларускай мове?**

— Як вышэй.

— **Хто Ваш любімы беларускі аўтар?**

— Няма аднаго. Зразумела, цаню класікаў. Але дзякуючы сябрам з Саюза беларускіх пісьменнікаў, якія на „Бязмежжа” давозяць новыя кніжкі, чытаю сучасную літаратуру. Я паклоннік паэзіі Валянціны Аксак і творчасці на мяжы жанраў Уладзімера Арлова. Люблю чытаць Барыса Пятровіча і вандраваць разам са Зміцерам Бартосікам або Ганнай Кандрацюк. Калі хочацца спалучыць слова з вобразам, бяру ў рукі „Колер Беларусі” Міхала Анемпадыстава. Ну і ад нейкага часу абавязкова пад рукою павінна быць „Поўня” Міхала Андрасюка.

— **Якую беларускую кніжку Вы актуальна чытаеце?**

— Яшчэ раз заглыбляюся ў „Школу травы” Андрэя Хадановіча.

— **Ці прывіваеце цікавасць да беларускай прэсы?**

— Раз у тыдзень „Ніва”, а штодзень сайты „Нашай Нівы”, Радыё Рацыя і старонкі Камунікату.

— **Якое, паводле Вас, самае цікавае беларускае мерапрыемства?**

— Я ад самых пачаткаў прыхільнік і глядач „Бардаўскай восені”. Таму шкадую, што яна штораз менш „мая” апошнімі гадамі.

— **Ці размаўляеце са сваімі вучнямі пабеларуску па-за ўрокамі, школай?**

— Размаўляю.

— **Ці маеце прыкрыя ўспаміны ў сувязі са сваёй прафесіяй?**

— Яны хутка забываюцца.

— **Што Вас палохае, наклікае стому?**

— Бюракратыя.

— **Ці сярод Вашых вучняў ёсць вядомыя выпускнікі?**

— Затрымаюся на двух першых класах, у якіх давялося мне вучыць, адначасова працуючы ў бельскай бурсе. У адным з тых класаў былі вядомая зараз мастачка Маргарыта Дмітрук, тэле-зорка Маргарыта Пракапюк і цяперашняя настаўніца ліцэя Івона Дунікоўская (Чыжык). У другім класе вучылася Альжбета Нічыпарук, зараз стваральніца і ігумення манастыра ў Залешанах. А потым былі сотні маладых людзей, з якіх поспехаў у жыцці я вельмі цешуся.

— **Ці атрымалі Вы ўзнагароды за сваю працу (грашовыя, ганаровыя)?**

— Я атрымаў Медаль нацыянальнай адукацыі, час ад часу атрымліваю ўзнагароду Бельскага старасты і даволі часта найважнейшую ўзнагароду — добрае слова ад сваіх вучняў і выпускнікоў.

— **Што Вам дае сілу, натхненне?**

— Мае вучні.

— **Самы цудоўны ўспамін настаўніка беларускай мовы?**

— Аднаго няма. Іх многа.

— **Які нацыянальны сімвал упрыгожвае Ваш клас?**

— У маім кабінеце побач Арла — Пагоня і многа бел-чырвона-белага. Дык такі і сімвал нашага ліцэя.

— **Як бачыце будучыню беларусаў?**

— Веру ў нашу беларуска-падляшскую трываласць. Будзем наракаць, што беларускасць нам да нічога непатрэбная, але будзем трываць. І заўсёды знойдуцца інтэлігентныя людзі, якія будуць сцяргчы нашай тут прысутнасці. Таму так важныя «Ніва», Радыё Рацыя і ўсе арганізацыі, якія сапраўды дзейнічаюць на карысць беларускай справе. А як гаварыў Сакрат Яновіч „Białoruś to nie jest sprawa dla mięczaków”.

Апытальнік правяла
**Ганна КАНДРАЦЮК**

## Дэмаграфія Нараўчанскай гміны

Нараўчанская гміна Гайнаўскага павета знаходзіцца па-суседску з Белавежскай, Гайнаўскай, Нарваўскай і Міхалоўскай гмінамі ды з Рэспублікай Беларусь. Зараз у Нараўчанскай гміне ўсё менш і менш жыхароў, значна больш паховін чымсьці народзін. Маладыя людзі выехалі адсюль у глыб нашай краіны або за яе межы ў пошуках працы і лепшага жыцця. У 2018 годзе гміна налічвала 3724 жыхары. Найбольшая вёска Нараўка налічвае 872 чалавекі. У Семяноўцы пражывае 391 асоба, у Старым Ляўкове — 331, у Новым Ляўкове — 209, у Скупаве — 191, у Міклашэве — 171, у Плянце — 149, у Тарнопалі — 129, у Лешуках — 113 і ў Альхоўцы — 99.

Ніжэй сотні налічваюць вёскі: Ахрымы — 90, Свінароі — 87, Заблотчына і Стачок — па 70, Старое Масева — 62, Гушчэвіна — 59, Баб'я Гара — 54, Лесна — 50, Міхнаўка — 49, Новая Лука і Янова — па 45, Новае Масева — 36, Грушкі — 33, Падляўкова — 32, Гарадзіска — 31, Капітаншчына — 30, Пасекі — 29, Слабодка — 24, Бярнацкі Мост — 23 ды Крыніца і Мінкоўка — па 20 жыхароў.

Найменшыя паселішчы ў гміне гэта Семенякоўшчына — 17 жыхароў, Сушчы Барок — 16, Новіні і Парослае — па 12, Забрады — 10, Церамкі — 9, Замоша і Баравыя — па 6 і Ланчына — 5 ды двух жыхароў мае Гнілец.

У Нараўчанскай гміне шчыльнасць насельніцтва складае 11 чалавек на квадратны кіламетр. Тут на 100 мужчын прыпадае 96 жанчын. Пражывае тут каля 3 тысячы праваслаўных у трох парафіях Нараўка, Семяноўка і Старое Ляўкова.

**(яц)**

## Пара збіраць летнія зёлкі

Зараз зёлкавы сезон у самым разгары. Летнія зёлкі збіраюць і прыносяць жыхары Альхоўкі, Пасек, Прэнтаў, Лесной, Новага Масева, Старога Масева, Міклашэва, Семенякоўшчыны і Семяноўкі. Гайнаўская суполка „Руно" мае свае пункты скупкі лекавых зёлак у Баб'яй Гары і Прэнтах (прысёлак Семяноўкі) Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Пункты скупкі наведаў я 10 чэрвеня гэтага года. Не працаваў адзін з іх у Прэнтах. Здарылася няшчасце — Вера Лукашук паламала нагу.

„Руно" купляе сушанае зелле крапівы, ясноты (глухой крапівы), сніткі, малачаю-адуванчыка, палявога братка, драсёну, марэны, маруны, гусялапкі, стрэлкі, палявога хвошчу і сярэбранніка.

Прымае сушанае лісце блюшчу, брушніцы, крапівы, бярозы, сніткі, мядункі, падбелу, святаянніку, адуванчыка і жывакосту ды карэнне крапівы, пацёрніка, лопуху, адуванчыка, аеру, кабыляка (конскага шчавуху) ды жывакосту.

Добра плацяць за цвет чырвонай канюшыны, адуванчыка, падбелу, каштана і шыпшыны з лісцем ды кару крушыны і чырвонай вярбы, ліпы і каліны. Дык збірайма цвет, лісце, зелле, кару і карэнне вышэйзгаданых раслін. **(яц)**



# На прасоўванне падляшскай вёскі

Абучэнні, майстар-класы, прасоўванне рэгіянальных славутасцей, навучальныя візіты, публікацыі і канферэнцыі — гэта толькі некаторыя праекты, якія будуць прафінансаваны ў рамках конкурсу Краёвай сеткі сельскіх абшараў (КССА). Будуць рэалізаваны 17 праектаў на агульную суму 723 тысячы злотых. 10 чэрвеня была праведзена прэс-канферэнцыя, якая падвяла вынікі конкурсу. У прыватнасці, удзельнічаў у ім Станіслаў Дэрэгайла, намеснік маршалка Падляшскага ваяводства.




У анлайн-сустрэчы таксама прынялі ўдзел дырэктар дэпартамента сельскай гаспадаркі і рыбалоўства МУПВ Анджэй Плешук, а таксама прадстаўнікі бенефіцыянтаў — Сільвія Грудзіньска, дырэктар Падляшскай рэгіянальнай турыстычнай арганізацыі (ПРТА) і Магдалена Кавальская з Управы гміны ў Чаромсе.

У рамках конкурсу ПРТА 17 праектаў атрымалі фінансаванне на агульную суму 723 тысячы злотых. Выдаткі на арганізацыю мерапрыемстваў будуць пакрыты ў поўным аб'ёме пасля рэалізацыі праектаў.

— Конкурс ПРТА — гэта адна з формаў актывізацыі сельскіх жыхароў, наладжвання пэўных мерапрыемстваў, дэманстрацыі новых тэндэнцый у эканоміцы, а таксама заахвочвання сельскіх жыхароў да стварэння бізнесу — нават у цяперашняй рэчаіснасці, — падкрэсліў Станіслаў Дэрэгайла падчас канферэнцыі.

Як адзначыў дырэктар Анджэй Плешук, на конкурс было пададзена шмат цікавых праектаў. Больш за тое, заяўнікі — прадстаўнікі розных сфер грамадскага жыцця.

— У нас ёсць муніцыпалітэты, асацыяцыі, мясцовыя групы дзеяння, а таксама турыстычныя арганізацыі і культурныя цэнтры, — сказаў дырэктар Плешук. — Мы вельмі задаволеныя гэтай разнастайнасцю.

ПРТА зінвентазыруе агратурыстычныя гаспадаркі.

ПРТА — адна з арганізацый, якая пакарыстаецца гэтым фінансаваннем. Атрымае звыш 70 тысяч злотых на рэалізацыю трох праектаў.

— Самае важнае, што з'яўляецца адпраўной кропкай для далейшай дзейнасці — гэта інвентарызацыя агратурыстычных гаспадарак, — паведаміла Сільвія Грудзіньска. — На сёння няма ўзгодненага ўліку размяшчэння агратурызму ў нашым рэгіёне, і гэта праблема эфектыўнага прасоўвання сельскага турызму, — падкрэсліла дырэктарка ПРТА.

Пералік агратурыстычных гаспадарак павінен стаць асновай для вызначэння колькасці і якасці турыстычных аб'ектаў у актыўна функцыянуючых гаспадарках Падляшскага ваяводства. Мерапрыемства завершыцца дакладам, які стане асновай для вызначэння кірункаў прасоўвання сельскага турызму.

ПРТА таксама арганізуе форум Падляшскага агратурызму і шэраг трэнінгаў у галіне прасоўвання агратурызму ў сацыяльных медыя.

**Смакі рэгіёна** — гэта назва праекта, які будзе рэалізаваны ГЦК у Чаромсе. Як растлумачыла Магдалена Кавальская з Управы гміны ў Чаромсе, праект падзелены на тры этапы. Першы з іх — гэта серыя трэнінгаў, падчас якіх удзельнікі даведаюцца пра традыцыйныя спосабы прыгатавання страў — у тым ліку сметанковага масла, хлеба, сыру і мяса ў слоіках.

— Пасля трэнінгаў адбудзецца семінар, падчас якога будзем пераконваць, што вёска — вельмі добрае месца для жыцця, але гэта таксама выдатнае месца для развіцця прадпрымальніцтва, — сказала Магдалена Кавальская. — Будзем размаўляць пра ланцуг паставак, рознічны гандаль у сельскай гаспадарцы і сістэме якасці харчовых прадуктаў.

ГЦК у Чаромсе таксама арганізуе кулінарны конкурс „Салодкае і салонае" для гурткоў сельскіх хатніх гаспадынь і прыватных асоб. (Гмінны цэнтр культуры ў Чаромсе на Смакі рэгіёна атрымае 15 159,40 злотых).

Віцэ-маршалак Станіслаў Дэрэгайла адзначыў, што праграма ПРТА адпавядае пажаданням і чаканням жыхароў вёскі. Абвясціў, што ў наступным годзе бюджэт конкурсу запланаваны на 1 мільён злотых.

Сярод іншых бенефіцыянтамі конкурсу сталі:

Асацыяцыя N.A.R.E.W. — Акцыя па развіцці сельскіх раёнаў Narew — „Абмен ведамі і вопытам — моц ЛГД (лакальныя групы дзеяння) — азнаямленчая паездка", 99 400,00 злотых;

Польскае таварыства аховы птушак — „Польскі конік — прасоўванне пароды і кансерватыўнае развядзенне" — 28 856,79 злотых;

Падляшская рэгіянальная турыстычная арганізацыя — Падляшскі агратурыстычны форум „Турызм" — 14 963,70 злотых;

Падляшская рэгіянальная турыстычная арганізацыя — „Кіраванне маркі (брэндынг) у агратурызме" — абучэнні — 14 344,40 злотых;

Падляшская рэгіянальная турыстычная арганізацыя — „Інвентар агратурыстычных гаспадарак Падляшскага ваяводства" — 43 050,00 злотых;

Музей народнай культуры Падляшша — Эка-смакі Падляшша — 35 584,37 злотых

Мясцовая група дзеянняў „Белавежская пушча" — Актывізацыя турыстычнай прасторы як шанц для сацыяльнага ўключэння і эканамічнага развіцця раёна ЛГД „БП" — 96 371,40 злотых

Падяшскі Універсітэт залатога веку — „Прадпрымальная вёска — актывізацыя мясцовай супольнасці з сельскіх абшараў" — 82 787,07 злотых.

**(лук)**

# „Мая вада"

У праграме «Мая Вада» прапануецца 100 мільёнаў злотых на загаспадаранне дажджавой вады. Пяць тысяч злотых субсідыі на хатнія ўстаноўкі, якія стрымліваюць дажджавую ці талую ваду можна будзе атрымаць з новай праграмы «Мая вада». Гэта ініцыятыва Міністэрства клімату (МК) і Нацыянальнага фонду аховы і кіравання воднымі рэсурсамі (НФАіКВР), якія ўкладуць 100 мільёнаў злотых на палагоджанне наступстваў засухі ў Польшчы. Разбор заявак пачнецца ў ліпені.

— Я хацеў бы, каб узнікала як мага больш малых вадаёмаў. Субсідыі можна ўкласці ў выраб хатніх установак, якія ўтрымлівалі б дажджавую ваду, „водныя вочкі", — падкрэсліў прэзідэнт Рэспублікі Польшчы Анджэй Дуда.

Як адзначыў міністр клімату Міхал Куртыка, змяненне клімату дадаткова негатыўна адбіваецца на даступнасці вады і паглыбляе яе дэфіцыт у Польшчы. «Праграма „Мая вада" прафінансуе да 20 тысяч прыхатніх установак акумуляцыі вады. Мы мяркуем, што прыхатнія інвестыцыі ў водныя вочкі спыняць 1 мільён кубічных метраў у год на тым месцы, дзе падае вада, гэта значыць на прыватных участках. Гэта азначае, што адзін мільён кубічных метраў вельмі каштоўнай вады вызваліць каналізацыю і знізіць рызыку паводкі ў выніку праліўных дажджоў».



Кожны ўласнік індывідуальнага дома зможа атрымаць субсідыю 5 тысяч злотых, прычым не больш за 80% выдаткаў, якія павінны быць выдадзеныя пасля 1 чэрвеня 2020 года. Нацыянальны фонд аховы навакольнага асяроддзя і кіравання воднымі рэсурсамі пералічыць грошы ў шаснаццаць ваяводскіх фондаў для аховы навакольнага асяроддзя і кіравання воднымі рэсурсамі, якія бліжэй да бенефіцыянтаў. З пачатку ліпеня 2020 года яны будуць атрымліваць заяўкі ўладальнікаў дамоў на прыхатнія водныя мікраінсталяцыі.

На што такое фінансаванне? Падтрымка мае забяспечваць закупку, зборку і ўвядзенне ў эксплуатацыю ўстановак, якія дазволяць выкарыстоўваць дажджавую і талую ваду на тэрыторыі, якую ахоплівае праект, у выніку чаго гэтыя воды не будуць скідвацца, напрыклад, у бытавую і эканамічную каналізацыю, каналізацыю лівневай вады, дрэнажныя канавы, якія выводзяць ваду за межы ўласнасці, у суседнія раёны, вуліцы, плошчы і г.д. Атрыманыя грошы могуць быць выкарыстаны для дрэнажных труб (сабраных з жолабаў, сцёкаў у надземны рэзервуар, падземнага рэзервуара, вадаёма, дрэнажную сістэму), падземнага або надземнага рэзервуара, вадаёма, сістэмы зліву і элементаў для арашэння або іншае выкарыстанне накопленай вады.

Праграма „Мая вада" будзе рэалізоўвацца ў 2020-2024 гадах з падпісаннем грантавых пагадненняў, запланаваных на 30 чэрвеня 2024 года, і выдаткамі да канца 2024 года.

**(лук)**

# Памяць Холмскіх і Падляшскіх пакутнікаў ушанавалі ў Свята-Духаўскай царкве ў Беластоку

У нядзелю 14 чэрвеня 2020 года ля помніка закатаваным праваслаўным жыхарам Беласточчыны прайшла адмысловая малітва. Старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства Ян Сычэўскі, адзін з ініцыятараў пабудовы помніка Пятро Крук і ініцыятар памінання Пятро Юшчук усклалі ля помніка вянкі і запалілі знічы. У пропаведзі з нагоды свята айцец Юры Барэчка заклікаў да памяці аб трагічных пасляваенных падзеях на Беласточчыне:

— Заляшаны напрыканцы вясны павінны памятаць, што сталася з тымі праваслаўнымі мясцовасцямі і людзьмі.

— Гэта пашана праваслаўных да тых, каго расстрэльвалі і палілі.

— Тры браты было — Ян, Уладзімір і Канстантын. Яна забілі. Каб не забывалі гэтага.

— Няма з нашага боку і з боку праваслаўных беларусаў згоды на фальшаванне гісторыі, няма згоды на тое, каб каты былі ўшанаваныя, каб ім ставілі помнікі і называлі іх братамі.

Свята Падляшскіх і Холмскіх пакутнікаў (устаноўленае ў 2003 годзе) праваслаўная царква ў Польшчы адзначае ў першую нядзелю чэрвеня. Сёлета свята было перанесена ў сувязі з тым, што супадала з іншым царкоўным святам Тройцы.

**Валянціна ЛАЕЎСКАЯ,**
**Беларускае Радыё Рацыя**













зорка
для дзяцей і моладзі



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

*Міра ЛУКША*

## Вяночак моцы

Чакаючы купальскай ночы
віем сабе вяночкі моцы,
вяночкі сілы жаноцкай,
з зёлачак нашых вяночкі.

У дзень летняга сонцастаяння
уплядзем туды святаяннік,
бярозу і дуб, і ляшчыну,
палын, божае дрэўца — не згінем,

Піжму, шалфей і шыпшыну,
васілёк сіні і канюшыну,
дзікую ружу — каніну,
лаванду, бяссмертнік, бузіну.

Жыццярадаснасць прынясе
ён і сілу,
ахову ад злосці нямілай,
багацце пачуццяў прарочыць,
не дасць паскудзе сурочыць.

Плёўшы, пра добрае думай,
у голас кажы свае думы.
Мроі свае шлі да Сонца,
пра радасць і шчасце бясконцае.

А хлопцу сплядзі павязку,
пояс на сцёгны з красак,
вінаграднай лазы і дуба,
з вярбы, язміну, хай любы

волата мае сілу,
і будзе добры і мілы,
піжму, пырэй,
хмель зялёны, і шалфей,
ясень, бяссмертнік, палын,
ялавыя шышкі... На чын!



Фота Ганны Кандрацюк



Злева: Габрысь, Віця, Алюсь і Пецька з Vц

Фота Адама Паўлоўскага

# У чаканні Купалля!

Чаму ўсе любім Купалле?

Для нас гэта знак, што неўзабаве канікулы. Ой, як стаміў гэты цэлы рэжым звязаны з эпідэміяй каранавіруса! Асабліва першыя тыдні, калі нельга было пакідаць хату і карміцца інфармацыяй пра шалёны распаўсюд заразы ў свеце. Праўда, навучанне анлайн спадабалася часткі вучняў. Пастаянны кантакт з настаўнікам і лепшыя ацэнкі паднялі настрой і амбіцыі, заставілі марыць пра лепшыя школы. А за салідную працу звычайна чакае салідны адпачынак.

У час ізаляванасці мы зразумелі важнасць кантакту з прыродай. Як цешыць звычайная экскурсія ў парк, ці лес! Вялікую асалоду, асабліва ў летні, спякотны час дастаўляе вада. Ды адпачываць, як і вучыцца — не так проста! Разумныя людзі заўсёды выберуць актыўны адпачынак. Узамен падмацуем здароўе і нешта прысвоім са свету.

Вось нашы сябры з ПШ № 4 у Беластоку нядаўна наладзілі традыцыйную ўжо «вандроўку» на байдарках. Плаванне па рацэ Супраслі — гэта чыстае захапленне родным краявідам. Яшчэ дзеці і бацькі прыкмецілі пазітыўную змену ў прыродзе. Рака, якая здавалася ім звычайнай, у гэты раз прывітала незвычайнай чысцінёй тоняў. Так што з перспектывы байдаркі можна было назіраць за жыццём раслін, насякомых, рыб, слімакоў.

А фізічны высілак падмацаваў мышцы і аднавіў сілы, згубленыя пры экранах планшэтаў і камп'ютараў.

Неўзабаве Купалле! Тады ўжо адчуваем раскошны прадвеснік канікулаў. Згодна з народнай традыцыяй з гэтага дня можна купацца ў рэчках і вадаёмах. Пра гэта гарачы верш Міры Лукшы «Вяночак». Давайце і мы сплядзем нешта сваё, чароўнае і пранікнёнае шэптам раслін, сонца, вады і аднолькавай дзіцячай радасці.

Беларускае Купалле — гэта чароўныя вянкі, вогнішча, песні і жывая магія. Ды не трэба ехаць далёка. Гэтае свята можна адзначыць над сваёй рэчкай у крузе сяброў або з сямейкай. Галоўнае — каб усім было весела і добра.

Зорка

## УВАГА КОНКУРС! № 25-20

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 28 чэрвеня 2020 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Загадкі з роднай хаткі**

Красуня чырвоная
села ў травіцы,
І кожнаму хочацца
ёй пакланіцца.
С.....

(В. Жуковіч)

**Адказ на загадку № 21-2020: зязюля. Узнагароду, «Беларускую маляванку для дзяцей і дарослых» (з прыгожымі малюнкамі ды цудоўнымі вершамі) выйграла Алюка Нармантовіч. Віншуем!**

# Міфы старажытных беларусаў

**ДОЖДЖ** — старажытныя беларусы лічылі, што дождж, ад якога залежаў рост усіх раслін і ўраджай, пасылаўся на зямлю святым Ільёй. Уладальнік жыццядайнай вады раз'язджваўся па небе ў жалезнай калясніцы і тады на зямлі чулі гром, які прадказваў буру. Яго ўяўлялі як старога з белай барадой, які справядліва раздзяляў на зямлі дождж. У месцах, дзе панавала засуха, людзі верылі, што той народ разгладаў святога дрэннымі паводзінамі.

На дождж глядзелі праз старыя павер'і, якія цягнуліся ад каменнага веку. Даволі цікавае павер'е са сляпым дажджом. Гэта тады, калі свеціць сонца і падае дождж. Яго называлі па-рознаму: сонечным, цыганскім, свіным або заечым. На Палессі верылі, што тады смяецца Багародзіца і ласкава абвяшчае ўдачы і прыбытак у гаспадарцы.

Калі гаварыць пра дождж у міфалогіі беларусаў, нельга забыцца пра рытуалы звязаныя з выклікненнем дажджу. Пра гэта мы ўжо шмат гаварылі пры павер'ях звязаных з засухай. Каб прызваць дождж, сяляне тры разы абыходзілі вёску, поле, царкву або калодзеж. Таксама пры выкліканні дажджу абворвалі вёску, ткалі спецыяльны ручнікі-абыдзённікі, выраблялі крыжы і ставілі іх на ростанях ці каля калодзежа. Яшчэ разбурвалі мурашнікі, разбівалі гаршкі, вылівалі боршч ці высыпалі мак у калодзеж.

Нашы продкі баяліся сноў звязаных з дажджом. Яны верылі, што такі сон прадказвае слёзы або няшчасці. Але ўсё залежала ад кантэксту і дня, калі ён прысніўся. Часам такі дождж ва сне абазначаў ураджай ці прыбытак. Калі маладыя ехалі вянчацца ў царкву пад дажджом, то верылі, што гэта да шчаслівага і багатага жыцця ў шлюбе.

*(Адрэзак на аснове «Беларускай міфалогіі для дзяцей»)*

**гак**

# Самапіска — цуда ў руцэ

Самапіска, даўгапіс, шарыкавая ручка — шэдэўр тэхнікі! Першыя вырабы былі зроблены для арміі. Адкуль узяліся даўгапісы? Трымаючы ў руцэ гэты звычайны і танны прадмет, рэдка задаемся пытаннем, колькі тэхналогій ён утрымлівае. І якім вялікім прарывам стала яго стварэнне!

Энцыклапедычныя нататкі як стваральнікаў першага даўгапіса звычайна прызнаюць братоў Ласла і Джорджа Біро, якія ў 1938 годзе сканструявалі папярэднікаў сённяшніх самапісак. Гэта не ўсю дакладная інфармацыя. Усё з-за таго, што канцылярскія прыналежнасці, якія выкарыстоўвалі фарбавальны бачок, што кончыўся металічным шарыкам, існавалі ўжо ў канцы XIX стагоддзя — патэнт быў выдадзены ў 1888 годзе. Гэта быў ранні эквівалент сённяшніх шарыкавых ручак. Вядома, далёка недасканалы, бо атрамант часта выцякаў бескантрольна, але з пункту гледжання прынцыпу дзеяння адпавядаў рашэнню, прыпісанаму братам Біро.

Чаму тады венгерцы лічацца вынаходнікамі даўгапіса? Іх заслуга заключаецца ў такім удасканаленні раней вядомых рашэнняў, што яны сталі выгаднымі для кожнага чалавека. Гэта некалькі нагадвае гісторыю пра Стыва Джобса і iPhone, альбо Томаса Эдысана і лямпачку — у абодвух выпадках ніякіх новых тэхналогій не было прыдумана, але былі ўдасканалены існуючыя, каб зрабіць іх як найбольш прыдатнымі для звычайнага чалавека.

Важная была запраўка-ўклад, які не пляміць. Ключавое паляпшэнне тычылася зместу напаўнення пяра. Раней выкарыстоўваны атрамант прасочваўся і размазваўся. Ласла — як журналіст — заўважыў і зразумеў слабасць сучасных рашэнняў. Джордж — як хімік — ведаў, дзе шукаць дапрацоўку. Ён назіраў, што друкарскія фарбы сохнуць вельмі хутка, значна хутчэй, чым атрамант. Выхадам аказалася распрацоўка падыходнай фарбы, якая ліквідавала былыя недахопы. Дык чаму ж цяжка разглядаць 1938 год як фактычны дэбют даўгапіса? Усё з-за таго, што ў першыя гады даўгапісы былі спецыялізаваным інструментам, выраблены для патрэб арміі! Гаворка ішла найперш пра пілотаў і здольнасць рабіць нататкі на розный вышыні. Для гэтага аўтаручкі не падыходзілі — яны працякалі з-за перападу ціску. Альтэрнатывай заставаліся алоўкі альбо — так, тэхнічны цуд у выглядзе самапіскі-даўгапіса! І даўгапісы сталі для ўсіх! Іх дэбют на спажывецкім рынку адбыўся толькі пасля Другой сусветнай вайны. Роўна 29 кастрычніка 1945 года ў нью-йоркскай краме Gimbels пачаўся продаж даўгапісаў. Як і належыць рынкавай навінцы, былі яны нятанныя. Разлічваючы па сённяшніх цэнах, даўгапіс каштаваў аж каля 174 доляраў!

Варта адзначыць, што даўгапіс — хоць і выглядае даволі простай прыладай — патрабуе значнага ўзроўню тэхналогій, асабліва металургіі. Гаворка ідзе пра гэты маленькі шарык на канцы картрыджа-ўклада. Гэта выглядае банальна, але магчымасць вырабляць такія шарыкі з адпаведнымі параметрамі была па-за межамі дасяжнасці многіх краін. Дастаткова згадаць, што Кітай, які вырабляе каля 80 адсоткаў усіх даўгапісаў на Зямлі, да нядаўняга часу цалкам залежаў ад даставак з Японіі: магутная дзяржава не была ў змозе вырабіць шарыкі для «ўкладаў» для даўгапісаў! Тэхналогія іх вытворчасці была асвоена ў Кітаі толькі ў 2017 годзе!

**(лук)**

Малая Марыська Матыс з вёскі Саўляны Супрасльскай гміны Беластоцкага павета.

Фота Янкі Целушэцкага

Алег Старынчык

## Алежак і арэшак

Ходзіць тоўсценькі Алежка,
Цэлы дзень ён есць арэшкі.
З'еў адзін, бярэ другі.
Паміж імі пірагі.
Цэлы дзень жуе, жуе,
Дыхнуць зубкам не дае.
Раптам раздалося: «Цок!»
Аб арэх зламаў зубок.
Маці кажа: «Што, сыночак,
Мышцы аддадзім зубочак?
Забярэ яна старэнькі,
А табе дасць маладзенькі».

## Польска-беларуская крыжаванка № 25-20

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 21-20:**

Вясна, шар, сцяна, урал, на, дождж, бура, кухарык, бляск, гном. Вада, яр, буся, дух, мора, жарт, цуд, Сяржук, на, но, кальцо.

Узнагароду, кніжку «Як мядзьведзь пчаляром стаў», выйграла **Мілена Федарук.** Віншуем!

Przysmak
Mama
Szafa
Komar
Idea
Pióro
Grypa
Łowienie ryb
Jar
Grom
Skowyt
Mit
Grzywa
Rozum
Ada
Grzyby
Owal
Re
Klasa
Łopata
Jak
Uczta
Cud
Reszta
Grad
Pokrywa
Ryż


Фота Адама Паўлоўскага

Сымон РАМАНЧУК

# Чарадзеі (ч.3)

Іаланта заліхвацкі расказвала падружкам, што там, на Дольнай, яна знайшла «свайго» базарнага певуна-паэта, які ёй кожны дзень, калі яна там з'явіцца, вершы спявае:

— Różo błyszcząca, słoneczna, lilijo przeczysta, mleczna! Ty nie z ziemi! Tam rosłaś, nad białym obłokiem”... Róża, ta róża żyje! Wstąpiła w nią dusza, główką lekko rusza, jak ogień z niej bije! To rumieniec żyjący — jak zorzy wniście. Śmieje się, jak uśmiech rozwija liście, roztula między liściem dwoje ust z koralu, mówi, coś mówi — jak cicho, jak skromnie. Co ty, różo, szepczesz do mnie?” — - -

Дзяўчына-хахатуха непакоілася няраз, у размове з падружкай Арыяднай:

— Ведаеш, ад гэтага майго вулічна-базарнага „przeglądu wojsk” — калі-небудзь я не змагу, не адолею павярнуць свае галавы на яе месца, уперад, яна стаўпом стане, карак у жардку заменіцца!.. Бог пакарае за гэта маё «глянь туды, падзівіся — сюды адвярніся — на гэта глянь-проста-назад — налева — направа!!! Я ж мазгаўніцай кручу як кіраўніцай: — ён адыходзіць — той падыходзіць — чорны мінае — бялясы з-за плячэй з'яўляецца!!! Дамоў вяртаюся, балваніца, зоўсім хворая, змучаная, разбеганая, абамлелая! Карак потым віпросалем і вольтарэнам гадзінам мажу, масую! Я ж на вуліцы — як хамелеон, на ўсе бакі гаршчок свой гэты дурны кручу! Ну што зрабіць, Арыядначка, га? Што ўчыніць, калі хлопцаў дзясяткі — сотні! Ды ўсе цуды! Глянеш — аблізжашся — краса, вон, якая ідзе! Яго б абняць! А вочы якія, губы! Пайшла далей — яшчэ прыгажэйшы мнецца-тупае! Ну — гадзюка — вачыма гэтак і страляе, падлец, падспеўвае, пальчыкам губаў сваіх дакрануўся, паказвае: пацалуеш? Тут, вось, сярод тваіх калежкаў — што з імі ідзеш — а кампанія твая — кожнага хватай, ды ў засос цалуй!!! Прайшлася ля стэндаў-боксаў — той да памідораў-капусты маніць, сам сябе рукамі абдымае — чытай: ходзь, і цябе гэтак! Во, а той боты, нібы, прымярае, а не мае пяліцца — вачыска вылупіў, паніска, штаніну задзёр — глянь, значыць, нага якая, а іншае? Пэўна — чакай — зараз бягу, за каленца вазьму!..

— Не, а што ты за мной лезеш, ужо каторы час? Чакай — за будку гэту якраз з табой і пайду! Цалавацца! Напэўна! Ну, краса ты, бачу, ну, бачу! Што я сляпая? Чаго ўжо губы выпучыў, грубястыя — як бы хто іх малатком пабіў — як касы пакляпаў! Ну цалуеш, не выпадае гэтак, я ж дзяўчына, хоць зоўсім дурная балбесіца! Іду, іду, гавары! Спаткацца хочаш? Дзе?.. Магу, у пятніцу! Буду! Ну, буду, чарцяка! У батанічны сад прыедзеш, ведаеш, за заапаркам? Там і пацалуемся! Ну, сказала, буду! Добра, люблю вясёлых, прыедзь! Не будзеш — прыйду, затаўку на смерць, адбіўную катлету з цябе прыгатоўлю, усмажу, на вачах усіх!

— Арыядначка, сястрычка, НЕ! Я не выйду замуж. На адным мне не затрымацца! НЕ здолею, яго скрыўджу! За іншым палячу! Як жа да аднаго толькі прыклеіцца, прывязацца? Калі з боку, побач, іншая краса заве-маніць? Падружка, ты ўсё ведаеш — якое лякарства ўзяць? На аднаго?! Бо гляну сюды — ангел, віду — архангела, проста — Валадыёўскі, налева — Скржэтускі, направа — Багун, назад — пан Тадэвуш услед ідзе! Божанькі! Ашаленне!..

— Падружка, ты ўслухайся ў якую карузэлю-гайданку я папала на Дольнай! Бачу, суседка наша дамашняя, Віялетка — хто ж яе ў нас не знае? — хлеб прадае — з радасцю мы паздароваліся... Гляджу, а з каморкі выходзіць — ён, бог парнаскі-грэчаскі-алімпійскі ці афінскі-карынцкі! Ну, гэты-та будзе мой! Такія — для мяне! НЕ адпушчу, НЕ аддам, адарву сабе, калі хто ўжо заграбастаў! Гэта той «мой» паэт «ад ружы», прыгажэйшы чымсьці ўсе разам узятыя: Менелай, Агамемнон ці Дзіямед з-пад Троі! Ён, чарцёнак, „różo słoneczna”, „lilijo przeczysta”! — пагібель мая! З гэтым, тут на вачах усіх, хоць зараз, не ўстыдаючыся, магу цалавацца да ўпаду!.. Ну, падыдзі, смяльчак! Чаго апешыў?.. Гэтак проста ж, у каморку сваю вядзі! Што-што, пані Віёля? Сонца ты маё! Свет ты мой ясны! Сліны ў мяне поўны рот нацякло-набегла-набралася, задыхнуся яшчэ, упаду! Капыты адкіну!!!

— Якась я, Арыядначка, аддыхалася, ачмыхалася, ды кажу — да майго панічыка, проста ў вочы яго гледзячы:

— Суседачка, пані Віёля, а дзе ж вы знайшлі-выкапалі гэту вашу каляраванку, з андуляцый-чупрынай чорнай, што побач з вамі?! — Юрка? Ды ён неяк сам з аблокаў прызямліўся, наш гэты скарбунчык (ён — што, і яе золатца?!). Ды наш ён, наш, сын ён гаспадароў тутэйшых, хлебнікаў нашых!

Іаланта тут жа прыкмеціла, што пані Віёля надзвычай ажывілася, гаворачы пра хлопца, вачэй і яна сваіх з яго не зводзіць! Пэўна, з лялькі гэтай!

І бабы тут, гаспадыні, у чаргу да яго намерыліся, хоць гляньце, іншых тут боксаў з хлебам — хоць адбаўляй, а яны — куры-сакатухі — да яго толькі валяць (пэўна, без яго Віёля — колькі прадасць?) Буханкі, рагалікі... Ага і я «папрабавала б» гэтага, на дзвюх нагах, «баханка», падпечанага, «булачку» — са скарыначкай. Як усе гэтыя бабыжонкі-дзеўкі, што вакол талмазяцца, да яго толькі бягуць-спяшаюць-паўзуць! «Хлеб наш надзвычай смачны!» — захвальвае Віялета. — Пэўна, і я «паела б» яго, хвілін хоць пяць, «пасмакавала б», аблізалася б! Толькі ж бо, не болей, у думках жаданнях, бо не болей тут долі-дабычы ўсёй нашай бабскай, на гэтым базарным «паляванні»!

* * *

Іаланта зоўсім раскудахталася! Далей пайшла, паскакала, сакатуха-малацілка-сячкарня-цэрніца! На ўсё ды ва ўсю пайшла! У шоку, адранцвенні! Падумаць бы толькі, базар — хлеб і гэткі — Адысей; ну ці ж паверыш, што гэта не быль-міф-каза! — ці Тэлемах, сын Адысея — калі гэта не ён сам! І неба грэчаскае-зорнае над табой — а базар лодзінскі, куды б гэта Лодзь-лодка-ладдзя заплыла з табою? У якія краіны з багамі-герасамі эладскімі?! Ну, калі гэта ўсётакі Польшча, і гэта ЛОДЗЬ наша, у яе цэнтры, а хлапчыска той, як яго назваць па-царскаму? — князь, граф, маркграбій? — а ён проста Юрко, то і так відна, што ён — НЕ з зямных нашага горада!!!

І пачала тая гераіня, доктар-педыятр у будучыні:

— Пазычце мне, мадам Віялета, хоць на адзін дзянёк гэтага вашага сіньёра чарнавокага, мне, дахаты да камплекту нашага! ВЫ ж ведаеце, мы ўсе такія, як ваш паніч Юрко, смуглявыя! Усе нашы, ад малога да старога, дзеці ўсе — як бы з Індыі, Інданезіі, Сінгапура якогась! Вось бы было кіно ў нас дома, супольнае! На 3-Д з акулярамі, і без!.. Дасьце?!

Юрко і пані Віёля рагочуць...

— Ды бяры ты! А ты, Юрко, час маеш на кіно хатняе ў цемнаце?!. Смех!

А Іаланта стаіць, маўчыць, мычыць! Абалбесілася! А тут зняў смех. Ну, канчаць трэба, раз адказу няма.

— Ну, паночку-галубочку, вы маўчыце, спалохаліся, відна, мяне, дзеўкі! Я на вас заглядзелася ды і забылася, па хлябец. Дайце, вось, гэты.

Падзякавала, пайшла, без дабычы галоўнай — ён жа застаўся. Вершамі ён, у дагонку, гаварыў, пра каліну-маліну-ягаду! Яна ж ледзь ногі свае ад падлогі адарвала, пайшла! Рушыла... Пра свет забылася, студэнтка, пані доктар медыцыны... — - -

* * *

— Арыядначка, калісь ты мне апавядала: быў такі грэк Амфіон, цуда-музыкант, што пад яго гранне, саладосць спеву, у Тэбах ці Фівах (бо як яны, богі гэтыя, горад свой называлі-клікалі?) — каменне-цагліны ў мур-сцяну-будову самі ўкладваліся, у рад лягалі, дом будавалі-ставілі-канчалі!.. А гэты, вось, наш лодзінскі чарцёнак хлебны, базарны іскуснік-майстар-ручка залатая, хлеб-булкі-ражкі-круасаны-цесты-сырнікі-кексы так ставіць, кладзе, што яны тожа, як цэглы ў Амфіона, самі раскладаюцца, у парадак лягаюць-становяцца-маркуюцца, соллю-макам-цукрам, дзе што трэба, абсыпаюцца! Цудадзейнасць адна і заглядзенне!!! Такога я тут рыцара, мая ты дзеванька, спаткала! Ды і ён на мяне зарыўся, гэткая чарнота ірацкая, якаясь саудаўска-арабская! І зноў паэзію чытаў!

— А я потым, бо ж яшчэ раз прыпёрлася, такую таму дурачыну стварыла, што пачуеш — упадзеш! — ад маёй «смекалкі»! З ім! З ім! Пабач, як я цырк стварыла! Ды і ён, бельзебуб вусаты, не лепшы! Нагаварылі фуру арыштантаў, як кажуць! А як цяпер размеркаваць-склеіць-паправіць, аднова пачаць?..

— Ходзь са мной, каляжаначка, бо я ўсё папсавала, выручай! А і ён — паламатаў, даладаваў, прыпаяў!.. Ідзем прасіць Віёлю, хай дапаможа з Юрком, бо мы гэтак закруціліся, што ў мяне ўжо гарачка пад сорак!

— Я ж, каляжаначка, праз гадзінудзве пасля першага разу зноў была пры гэтых «хлябах». Мык, села, паехала, пабегла да яго! Без устыду-ўдзержнік! Скажу, значыць, схлушу — памылка раніцай выйшла: сям'я раптам з'ехалася, замала хлеба — булак узяла-купіла!..

— Гляджу на яго зводдаль, лыткі ў мяне трасуцца як у паненкі-ліцэісткі, што першы раз уцякла з урокаў! Мой чорненькі царэвіч — гэн стаіць, вусік свой пагладжвае, Амфіон — хлебнік — музыкант, печыва якога, як на цудадзейнай вяроўцы-канвееры «маршыруе» ў торбы — бабскія карзіны, само «скача» — схавацца просіцца! Народу перад ім — масішча! Я не адважылася зноў падысці... Базар цэлы двойчы абабегла, купіла тяго-сяго непатрэбнага. Бо ён усё з бабамі, ветрагон!

— Чуеш, але дапільнавала! Ён пайшоў да цукерніка. Я за ім, кажу яму: «Хлеба замала, сям'я з'ехалася з-пад Пушчы да нас! Яна ў нас, сям'я, — пляту-балбачу нясу «цуднасць» усякую!, — я ж рана казала — уся яна чорная, гэткая як бы з Афрыкі — Індыі!»

— А ён мяне — амаль «паваліў-перакінуў» сваім водклікам! — Яны што, у вас? (бровы свае знёс, здзівіўся, і як пальне-гукне!) — значыць — яны ў вас негры? Мужыны? Як ноч чорныя? З якой пушчы-ліянаў?!

— На табе, баба, свята! Што, ужо забыў пра раніцу? Памяць твая, панічок, відна, што даўжыня тваіх тонкіх вусікаў! Чаму зараз — негры? Род такі ў нас смуглявы, а не чарнаскуры! Гляньце на мяне — мужынка я тоўстагубая? А дзеці ў нас такія «заграднічныя», з колерам, смугласцю, з тварам!..

— А ён мне сваё: бац! бэнц! — і рагоча, заліваецца званочкам! — А яны ў вас, дзеці, тожа мужыняты? І зоў у хохат! Гэтак табе так смешна? Ага — вось як! Усё забыў, ну і канцы з табой, буйвалёнак праціўны! Адхацелася табе, як бачу, раніцай — мне кланяцца-заляцацца!Пэўна ж тут сотні бабштыляў вочы табе мазоляць, рой цэлы шэршняў да цябе злятаецца, рыжых, восы ды пчолы з вачыма на мёд твой ласкайца-ліпнуць! Ты і ністагмы — oczopląsu — oczowytrzeszczu дастаў, значыць!

— І пайшла я, Арыядзік ты мой, што я яму адна — калі вулей-пасека гудзіць, бабскі! Ён хацеў нешта сказаць-дадаць, я рукамі махнула — не падыходзь, не хачу! — падумаеш — эмір арабскі, важняцкі, рыцар! Адзіны ты на свеце?! Задумаў-рашыў — упэўнены? Ну і будзь, што будзе! «Нагаварылася» ж я як гусянятка з парасём... Прыгожы-краса — то думаеш спакойна пра неграў афрыканскіх мне плесці, марочыць?!. Яны табе — у чым вінаваты? Гэй я да цябе з сэрцам, а ты па-мужынску плюешся? Што — на базары — хлеб толькі ў цябе аднаго? Важняка! Абыдземся!

— Я расплакалася, сяброўка! Якаясь жанчына мяне спытала: — Вы што — грошы згубілі? Ці вас абакралі, плачаце?

(працяг будзе)

# Эпідэміі, заразы, моры ў колішняй Арлянскай гміне

Міхал МІНЦЭВІЧ

Спрадвечна людзей краналі розныя плягі. А з людзьмі маем так, што калі бяда не закранае нас непасрэдна, то яна нам абыякавая. І нават прыжываецца перакананне, што такія няшчасці абмінуць нас.

Сёння, у час пандэміі каранавіруса, калі ўведзены шматлікія абмежаванні і пайшоў страх, каб не заразіцца, наша ўспрыманне свету, узаемаадносіны, мабыць, памяняюцца ў лепшы бок. Але апытаныя мною людзі адказваюць, што так не станецца.

Як гісторык-рэгіяналіст хачу прыгадаць заразы з майго наваколля ў ХІХ і ХХ стагоддзях.

У палове ХІХ стагоддзя на Падляшша накінулася эпідэмія халеры. У 1880-х гадах па Орлі і наваколлі пракацілася эпідэмія гэтай хваробы, ад якой памерлі амаль усе жыхары вёскі Вэрвэчкі — часткі Арлянскай валасці. Была яна расположана на правым беразе рэчкі Арлянкі і працягвалася ад сённяшняй Калёніі Антанова па прыходскія могілкі. Была гэта вялікая вёска. Налічвала яна 82 гаспадаркі. Пры слуцкіх князях, паводле падатковай кнігі ад 1577 года, Вэрвэчкі ахоплівалі 25 валок, было тры карчмы і два судовыя выканаўцы. Яе назва яшчэ была на картах 1848 і 1880 гадоў. Паводле вусных успамінаў, уцалела толькі некалькіх гаспадароў, якіх тадышні ўладальнік Орлі князь Вітгенштэйн, не будучы ў змозе насяліць пустую вёску (эпідэмія закранула таксама Орлю), перанёс у Вульку і Міклашы. Вёска Вэрвэчкі счэзла з карт і зямлі; мяркую, што ўсе будынкі былі спалены дзеля знішчэння хваробы, а камяні ад фундаментаў расцягнулі пазней навакольныя гаспадары. Памерлых ад халеры хавалі на ўзгорку побач вёскі — не захаваўся ніводзін крыж. Думаю, што не было каму яго выканаць і паставіць. Паховіны адбываліся верагодна без святара. Людзей памерлых ад халеры лічылі нейкімі пракажонымі. Толькі 12 красавіка 1909 года ўладальнік суседняга поля Пётр Кубаеўскі паставіў у месцы пахавання каменны крыж з эпітафіяй: „Огради мя Господи силою честнаго и животворящаго Твоего креста и сохрани насъ отъ всякого зла. С. 1909 г. 12 апрель Кубаевскимъ П.”.

Амаль усе жыхары Вэрвэчак раптоўна памерлі, а магло іх быць каля паўтысячы асоб. Жалобнікі хавалі пэўна іх у цішыні і ў боязі, спаглядаючы на сябе, што мабыць і яны неўзабаве раздзеляць іх лёс.

Каля 1970 года на месцы пахавання, а каля 2000 года на месцы колішняй вёскі пасадзілі сасновы лес. І хаця месца пахавання аддалена ад прыходскіх могілак на нейкіх сто метраў, ніхто яго не наведвае, ніхто не моліцца за спачылых там арлянскіх прыхаджан, нават пра іх не згадваюць. (Дзіўнае гэта, бо — дзеля параўнання — штогадова ў Орлі ў першую нядзелю пасля Вялікадня адбываецца ўрачыстае шэсце з Міхайлаўскай царквы на старое цэрквіска па вуліцы Бельскай — да магіл расійскіх і нямецкіх салдат, якія загінулі ў ходзе Першай сусветнай вайны. Там, у капліцы св. Сымона Стоўпніка адпраўляецца паніхіда і малебен за мір у свеце. І хочацца спытаць: што замінае ўрачыста памаліцца за захаванне нас ад эпідэміі? І прыгадаць памерлых ад пошасці жыхароў Вэрвэчак і іншых мясцовасцей? А жыццё самое нам прыгадала каранавірусам.) У тым



Крыж на месцы пахаванняў памерлых ад халеры жыхароў Вэрвэчак



Могілкі паміж Вулькай і Парцавам

жа месцы былі таксама пахаваны некаторыя людзі з Орлі і наваколля ў час тадышняй эпідэміі халеры і пазнейшай тыфу.

**Клаўдзія Вялічка**, 1931 года нараджэння, успаміналa: „Прадзед з боку бацькі Кандрат быў эканомам у „пана” жыда Розенблюма (жыў на ўзгорку паміж Орляй і чыгуначным прыпынкам Арлянка, які называецца Калёніяй Антанова — М. М.) Ягоная жонка Ізабэла была нямецкага паходжання. Абое памерлі ў час эпідэміі халеры і пахаваны на халерычных могілках вёскі Вэрвэчкі”.

Памяць пра даўніну, пра вёску Вэрвэчкі і яе жыхароў, якія памерлі ў час страшэннай эпідэміі халеры, загінула б поўнасцю. Толькі дзякуючы маім газетным допісам назва Вэрвэчкі гучыць нанава. У лістападзе 2008 года пры Гмінным асяродку культуры ў Орлі ўзнік новы мастацкі калектыў, які — па маёй прапанове і падтрымцы солтыса Марка Хмялеўскага — прыняў назву „Вэрвэчкі”.

У канцы 1900 года ў Орлі пражывала аж 4286 жыхароў (зараз у цэлай гміне ледзь каля 2800 асоб, а ў самой Орлі каля васьмісот), з чаго больш за 80% складалі жыды — 3678 чалавек. Дрэнныя бытавыя ўмовы, перанаселенне і, перш за ўсё, неахайныя адносіны да санітарных і гігіенічных патрабаванняў паспрыялі ўзнікненню пошасцей халеры і тыфу.

**Наташа Камарчук** (1905-1997) так успамінала ў 1996 годзе:

„У Орлі яшчэ да Першай сусветнай вайны ўспыхнула эпідэмія халеры. Яна душыла жыдоў, а нашых хрысціян — не! Але ў жыдоў было так: у панадворку сталі тры-чатыры хаты, былі там зваллі ўсялякіх адкідаў, быў смурод і з таго ў іх халера завялася. А ад жыдоў у прынцыпе смярдзела — як выходзілі на шпацыр то чуць гэта было.

Помню анекдатычнае здарэнне ў Орлі. Жыды не бачылі канца той эпідэміі, а нашы, праваслаўныя, не хварэлі. І жыдам гэта не падабалася. Нашых толькі сто хат было, а апошнія былі жыдоўскія. Жыды рашылі тады пакарыстацца забабонным фокусам. Нанялі яны нашага хлопца, далі яму добрыя грошы і ён згадзіўся адыграць даручаную яму ролю. Меў ён стаяць перад жыдоўскімі могілкамі ў той час, калі будуць туды весці пакойніка. Мелі яго спытаць „Ці там ёсць месца для пахавання?” А ён меў адказаць, каб неслі памерлага на нашы, хрысціянскія могілкі. Мела гэта быць замовай, ад якой хвароба мела перайсці на хрысціян, каб нашы паміралі. Бо штодзённа па двое-трое жыдоў паміраla. І той хлопец стаяў перад могілкамі і чакаў. І калі жыды падышлі са сваім пакойнікам і спыталі „Ці тут ёсць месца для пахавання?”, ён у адказ спытаў: „Оно одін? Фурамі вэзіэтэ!” Як жа яны кінуліся за тым хлопцам, то ён уцякаў аж у Крывятыцкі лес, бо калі б не ўцёк, то яго забілі б.

Жыды вельмі плакалі ў час паховін; наймалі плачку з жыдоў (і ёй кідалі ў кубак грошы для сям'і пакойніка — М. М.) Наймалі з жыдоў, бо ніхто з нашых не пайшоў бы, каб не заразіцца.

Помню адно такое здарэнне — мая мама Акуліна Біняковіч, 1880 года нараджэння, паходзіла з Дубін, а выйшла замуж за Пятроўскага з Орлі. І адзін дубінец узяў сабе жонку з Орлі, сястру Міхала Мартыновіча; яна пастаянна наведвала родную Орлю. Аднойчы яна з мужам ехала фурманкай у Орлю да свайго брата Міхала. Даехалі яны да Орлі, а тут на кворасе (жыдоўскіх могілках з боку Шчытоў) акурат хавалі пакойніка. Неслі яго на высокіх насілках, а ад яго і смурод нёсся. І так дало тым смуродам, што той муж раптоўна, у дарозе, захварэў. Маланкава, бо гэта вельмі заразнае. Пахавалі яго ў полі з боку Антанова каля Орлі, на месцы халерычных могілак вёскі Вэрвэчкі”.

**Аляксандр Карнееў** (1910-2002) з Орлі ўспамінаў у 1997 годзе: „У міжваенны перыяд звальваліся на Орлю розныя беды, але дзве найбольш трагічныя ў гісторыі мястэчка: тыф і вялікі пажар. Тыф паявіўся пасля Першай сусветнай вайны. Не было сям'і, у якой хтосьці не хварэў бы, асабліва сярод жыдоў. Памятаю, што тады лячылі людзей знахар Омэлян Валасовіч з Кашалёў і фельчар медыцыны Карп Куптэль з Орлі. 18 мая 1938 года здарыўся вялікі пажар Орлі — цягам некалькіх гадзін згарэла 208 жылых дамоў, у тым ліку 178 жыдоўскіх і 266 гаспадарчых будынкаў”. (237 сем'яў апынулася без даху над галавой. Быў то адзін з самых трагічных пажараў у міжваеннай Польшчы. Страты ацанілі на 1 млн.250 тысяч злотаў — 250 тысяч тадышніх долараў — М. М., паводле W. Konończuk, „Ziomkostwa Żydów polskich”.)

чытайце 10

9 ☞ працяг

**Назар Таранта** з Вулькі каля Орлі (1908-2003) расказваў мне ў 1999 годзе: „У час эпідэміі расійскія ўлады забаранілі хаваць нябожчыкаў на могілках, якія знаходзіліся ў цэнтры або побач вёсак. Так было ў Парцаве Бельскай гміны, дзе месца на могільнік вызначылі між вёскай і Вулькай, у полі, каля ста метраў ад дарогі. На ім хавалі памерлых да Першай сусветнай вайны. Тады магілы абкладалі толькі дзёранам і цяпер ад іх засталіся ўсяго невялічкія бугаркі. На гэтым могільніку захавалася многа драўляных і каменных крыжоў, звенчаных каванымі металічнымі крыжыкамі. Цяпер рэдка хто з праязджаючых побач здагадаецца, што гэта стары парцаўскі могільнік".

У мінулым, як расказвалі мне пажылыя людзі, здараліся па вёсках такія няшчасці, што масава паміралі малыя дзеці. Каля Крывятыч, у чыстым полі, трыста метраў ад шашы ў бок Орлі, захаваўся запалы ў зямлю каменна-металёвы намагільнік з высечаным надпісам. На гэтым месцы ў канцы XIX стагоддзя жыхары вёскі хавалі малых дзяцей, якія тады часта паміралі. Месца пахаванняў сяляне ўжо зааралі і сеюць на ім збожжа. А памяць знікае...

Шмат пазнейшы каменны крыж, пастаўлены ў 1943 годзе ў канцы вёскі Градалі Арлянскай гміны. Раней расказвала мне Люба Куцэвіч: „Была вайна, не было дактароў, не памагалі замовы шаптух. Масава паміралі малыя дзеці. Людзі зрабілі салідны крыж, які паставілі ў полі пры дарозе. І памагло".

* * *

У мінулым людзям даводзілася цярпець і змагацца з эпідэміяй, якая пагражала голадам, з заразай, якая падала на быдла. Так было ў самой Орлі ў XIX стагоддзі. Па Кляшчэлеўскай вуліцы, на падворку пакойнага Міхала Шыманскага, побач ягонай кузні стаіць адзін з найстарэйшых драўляных лацінскіх крыжоў; высокі і ўжо пахілены. Як мне каліць расказваў, даўно таму лютавалі хваробы быдла, што пагражала голадам. У адчаі арлянскія гаспадары рашылі прынесці ахвяраванне Госпаду і на тадышнім грунце Мацея Шыманскага ў адну ноч паставілі крыж, пад якім закапалі вялікае льнянoе палатно. Стары крыж шматразова быў ладжаны і нанава ўкопваны, скручваны кавальскімі шрубамі. Сёння стаіць пахілены і толькі нямногім нагадвае пра былое здарэнне.

* * *

Каб прыблізіць веды пра жывёльныя эпідэміі размаўляў я са спецыялістам, лекарам-ветэрынарам **Юзафам Бжанам** з Бельска-Падляшскага, які амаль 35 гадоў перапрацаваў у Арлянскай гміне, а зараз працуе ў павятовай ветэрынарыі.

**— Якімі хваробамі магло хварэць быдла ў XIX стагоддзі?**

— Гэта мог быць яшчур у быдла і авечак; зараз гэтага няма. Пры яшчуры паяўляюцца прышчы — на языку, нагах і ўсюды. Гэта была трагедыя. І яшчэ магла быць сібірская язва. У гэтым выпадку яе рашуча ліквідуюць — выбіванне жывёлы, дэзінфекцыя і г.д.

**— Ці ў сваёй працы мелі Вы дачыненне з нейкімі заразамі?**

— Калі прыйшоў у Орлю, то яшчэ цягам трох-чатырох гадоў прышчэпліваў быдла ад сібірскай язвы, а ў Кашалях таксама коней, бо раней там была. І цяпер таксама бяруць выразкі наконт яшчура, дзеля засцярогі; такая лабараторыя ёсць у Здунскай Волі.

**— Ці заразы быдла небяспечныя для людзей?**

— Сібірская язва напэўна. А яшчур не. Сібірская язва хутка прыводзіць да сепсісу і ёсць яшчэ г.зв. *przetworniki*, якія могуць захоўвацца ў зямлі. Сібірскай язвой можна было заразіцца таксама выраблЯючы шкуры хворай жывёлы.

**— То прафесія ветэрынара асабліва небяспечная?**

— Усяляк бывае. Мне ўдалося, бо і конь моцна не ўдарыў задам, ні быдла хвастом не патурбавала. Але траўмы былі і ў мяне.

**— А што зараз з афрыканскай чумой свіней, бо быццам зрабілася ціха?**

— Нічога не гаворыцца, бо ёсць важнейшыя справы. У бягучым, 2020 годзе, мелі мы ў нашым ваяводстве ўжо каля сямідзесяці выпадкаў. Адстрэльваюцца дзікі. Маем каля дзесяці халадзільнікаў (адзін у Орлі) для захоўвання тушаў дзікоў і пасля даследавання або ў яду, або ў яму. І гэтая АЧС здараецца часта. Страляем увесь час і па панядзелках ездзім па тэрыторыі і збіраем выразкі ад дзікоў.

**— Ці АЧС дайшоў ужо на захад краіны?**

— Так. Ёсць у Любушскім і хіба ў Велькапольскім; мы ўжо не ў перадавіках.

**— А ў Еўрасаюзе?**

— Усюды ўжо выступае.

**— Зараз пенсіянеры па вёсках не гадуюць свіней...**

— Ніхто з пенсіянераў не гадуе, бо трэба трымаць адпаведныя нормы, а гэта шмат каштуе. Не аплачваецца.

**— Ці зараз дакучаюць у нас ваўкі?**

— У гэтым годзе пра такое не чуў.

Апрацаваў, размаўляў, сфатаграфаваў
**Міхал МІНЦЭВІЧ**




# http://tuzinfm.by

Адным са станоўчых вынікаў амаль трыццацігадовай беларускай незалежнасці можна лічыць з'яўленне даволі моцнай музычнай беларускамоўнай плыні. Ходзіць, канешне, пра сучасную музыку, а не фальклорныя спевы. Калі напрыканцы 80-х і ў пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя беларускамоўных музычных гуртоў было каля дзясятка, то цяпер іх у разы больш.

Зразумела, што новыя гурты і іх творчасць варта неяк папулярызаваць, бо інакш, яны рызыкуюць так і застацца на ўзроўні андэграўндных спевакоў. Сярод найбольш вядомых сайтаў, якія па сутнасці сталі скарбонкамі беларускай сучаснай музыкі, можна назваць „Тузін гітоў", які месціцца ў інтэрнэце па адрасе **https://tuzinfm.by.**

Як распавядаецца ў рубрыцы „Пра праект", выйсце на якую знаходзіцца ўнізе цэлага выяўлення, «Тузін гітоў» распачаў сваю працу ў сеціве 12 кастрычніка 2003 года. „Партал TuzinFM зьяўляецца прыватным некамэрцыйным беларускамоўным сеціўным выданьнем, які самастойна вызначае сваю інфармацыйную палітыку, характар і зьмест інфармацыі, рэклямы, аўдыё і відэа-матэрыялаў. Праект прысьвечаны айчыннай музычнай культуры і перадусім мае на мэце прасоўваць музыку, створаную тут, заахвочваць да праслухоўваньня беларускіх твораў як мага большую аўдыторыю. Партал Tuzin.fm ініцыюе і рэалізуе музычныя праекты ды выступае інфармацыйным партнэрам самых значных падзеяў на беларускай незалежнай сцэне", — адзначаюць стваральнікі і ідэйныя натхняльнікі партала. Праўда, уласна на сайце пра іх не распавядаецца. Таму, каб даведацца пра гэтых людзей, прыходзіцца маніторыць інтэрнэт. І ўжо з іншых сайтаў мы даведаемся, што праект стварылі трое: Сяргей Будкін, Вецер Мэханічны (Анатоль Лазар) і Аляксей Мінчонак.

На галоўнай старонцы сайта першымі ідуць навінныя паведамленні. Праўда, актуальнымі іх можна назваць вельмі ўмоўна. Так, апошняя навіна датуецца студзенем, прычым яна адзіная за сёлетнія шэсць месяцаў.

Зразумела, што на сайце можна праслухаць размешчаныя там песні, паглядзець відэакліпы, пазнаёміцца з альбомамі тых ці іншых гуртоў, а таксама спампаваць упадабаную кампазіцыю. Але найбольш цікавай опцыяй партала з'яўлялася магчымасць галасаваць за той ці іншы гіт, які потым, па выніках галасавання, займае адпаведнае месца ў гіт-парадзе сайта. Гэтая акалічнасць у свой час зрабіла „Тузін гітоў" вельмі прывабным, бо да яго нідзе падобнай опцыі ніводзін сайт не прапаноўваў.

Аднак усё калісьці канчаецца. Гэта ж тычыцца і „Тузіна гітоў", стваральнікі якога напачатку чэрвеня абвесцілі аб спыненні праекта. Але пра тое, што ён пакрысе „паміраў", сведчыць не толькі адсутнасць актуальных навін, але і спыненне гіт-парадаў, апошні з якіх датуецца канцом 2019 года.

Паводле Будкіна, які даў каментарый Радыё „Свабода", працягне дзейнічаць тэлепраект Belsat Music Live (які вядзе разам з Мірай Шульц) і перадача «Радыё Тузін» (выходзіць на «Радыё Рацыя» з вядоўцам Алегам Хаменкам), а таксама конкурс маладых выканаўцаў «Заспявай» (які ладзіць супольна з фондам «Вяртанне»).

Адным з працягаў „Тузіна гітоў" можна лічыць і новы праект, які тычыцца сучасных песень на вершы рэпрэсаваных беларускіх паэтаў. Ён будзе мець назву „НЕрасстраляныя".

**Аляксандр ЯКІМЮК**



Дата з Календара

# 90 гадоў з дня нараджэння Яўгена ПЕТРАШЭВІЧА

Беларускі музычны педагог, кампазітар Яўген Петрашэвіч нарадзіўся 18 чэрвеня 1930 г. у прынёманскай вёсцы Падбараны Мастоўскага раёна. Паходзіў з сям'і паштовага чыноўніка. Пры Польшчы яго бацька Канстанцін Петрашэвіч працаваў таксама цесляром. Пачатковую школу Яўген Петрашэвіч скончыў у мястэчку Лунна.

У 1939 г. сям'я пераехала ў Гродна. У 1949 г. Яўген скончыў 9 класаў гродзенскай сярэдняй школы № 8. Адначасна навучаўся ў музычнай школе. Бацькі ў 1950 г. былі рэпрэсаваны сталінскім рэжымам. Пазней Петрашэвіч расказваў пра іх, сам як майстар зрабіў барэльеф на надмагільным помніку маці. У 1949-1955 гг. вучыўся ў Мінскай музычнай вучэльні па класе баяна і кампазіцыі. Праўда, у 1950-1953 гг. быў перапынак, калі Петрашэвіча ўзялі на вайсковую службу. Потым працяглы час (у 1956-1970 гг.) выкладаў у гродзенскай музычнай школе, адначасна кіраваў аркестравай групай народнага ансамбля песні і танца „Нёман". У 1972-1974 гг. — кіраўнік хору Абласнога савета прафсаюзаў у Гродне.

З 1975 г. Яўген Петрашэвіч кіраваў аркестрам народных інструментаў абласнога палаца піянераў і школьнікаў (пазней палаца дзіцяча-юнацкай творчасці). Пазней у 1980 г. гэты аркестр перарос ва ўзорны фальклорны ансамбль „Дудары-кі", які выступаў з канцэртамі ў Беларусі, Літве, Польшчы, Францыі, Нарвегіі, Швецыі. Менавіта найперш па „Дударыках" ведалі і памятаюць Петрашэвіча гродзенцы. У Гданьску гурт атрымаў гран-пры Złoty Kogucik.

Яўген Петрашэвіч — аўтар вакальна-інструментальных і вакальна-харэаграфічных кампазіцый, шматлікіх песень на вершы Дануты Бічэль, Рыгора Барадуліна, Міхася Васілька, Ларысы Геніюш, Яна Чачота, Янкі Насуты, Цёткі, Авяр'яна Дзеружынскага, Міхася Губернатарава, Уладзіміра Шурпы, Аўгінні Кавалюк, Апанаса Цыхуна, Міхася Мельніка, Уладзіміра Васько ды іншых паэтаў. Пісаў рамансы, інструментальную музыку, кампазіцыі і на ўласныя словы, апрацоўваў народныя песні. Друкаваўся ў літаратурным альманаху „Новы замак", займаўся таксама як майстар скульптурай, рэзаў па камені і дрэве. Аўтар гранітнай скульптуры ў гонар заснавання вёскі Гудзевічы, драўлянай скульптуры „Вікінг", за якую ў Даніі атрымаў медаль.

Петрашэвіч найперш запомніўся гарадзенцам як вельмі культурны, тактоўны і зычлівы чалавек, сапраўдны беларус. Яго паважалі людзі, з ім цікава было размаўляць, ён шмат распавядаў. І сам увесь час быў заняты творчасцю. Вельмі любіў дзетак, з якімі працаваў, магчыма і таму, што не меў сваіх. Ягоныя „Гарадзенскія дударыкі" — гэта яскравы прыклад таго, як праз пашану да яго дзеці вучыліся шанаваць беларускую культуру. З усімі бацькамі сваіх выхаванцаў Петрашэвіч імкнуўся падтрымліваць кантакты, заўсёды перадаваў прывітанні, цікавіўся іх справамі. За гэта яго таксама вельмі паважалі людзі. Асабліва цікава распавядаў пра розныя беларускія песні. Ён сам пісаў вершы і вельмі любіў выразна дэкламаваць свае творы. Аўтар зборнікаў „Пасынкі", „Віншаванкі", „Байкі-непазяхайкі", „Сказ пра Калажу".

Памёр Яўген Петрашэвіч 11 сакавіка 2017 года ў Гродне, пахаваны на могілках па праспекце Касманаўтаў. На магіле помнік мастацкай вартасці. Петрашэвіч сам амаль зрабіў яго пры жыцці, крыху толькі не стала сіл скончыць помнік, бо майстру моцна балелі рукі. На металёвай агароджы вакол помніка змешчаны ноты.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**




# Мастаўляны — вёска на граніцы

Мастаўляны — невялікая вёска ў Гарадоцкай гміне Беластоцкага павета. У ёй усяго 19 жыхароў, а дзесяць гадоў таму было 24. У сяле сярод пару дзясяткаў дамоў, што прыкметна, яны без ганачкаў, шмат апусцелых хат, а ў некаторых па адной — будзе гэта самотны кавалер, дзядуля або бабуля. З Мастаўлян многа мужчын выехала на Сілезію. Там шукалі лепшых заробкаў. За апошняй хатай ужо вырас лес. У зборніку маіх дэмаграфічных матэрыялаў я знайшоў запіс: „У 1980-1990 гадах у Мастаўлянскай парафіі нарадзілася 45 дзяцей, пажаніліся 36 пар ды памерлі 238 чалавек”.

Мастаўляны маляўніча распалажаныя на невялікіх узгорках над ракою Свіслач (адсюль крутыя берагі) пры самай польска-беларускай мяжы. Ёсць тут прыгожая драўляная царква святога Апостала Яна Багаслова за мураванай агароджай на ўзвышшы. Побач — плябанія, старыя могілкі з капліцай. У Мастаўлянах стаіць помнік ураджэнцу гэтай вёскі Кастусю Каліноўскаму, кіраўніку паўстання 1863 года ў Беларусі і Літве. Тут на вуліцы яшчэ брук. Свайго часу на рацэ быў вадзяны млын. Непадалёк ад яго стаяла карчма.

У вёсцы шмат прысядзібных дрэў. На сядзібе Ніны Сэварын і яе дачкі Алі растуць букі і ясені. Гэта сядзіба мужа спадарыні Ніны, Сяргея. На панадворку, абгароджаным плотам са штыкецін стаяць невялікі драўляны дом (без ганачка), дрывотня. Дом пакуль што накрыты шыферам, але яго будуць зрываць. У сярэдзіне ва ўтульнай хаце ў кухні цагляная як некалі пліта і г.зв. ляжайка. На цёплай па-ляўкоўску ляжайцы любіць сядзець або ляжаць рыжы кот. Зімой паляць у сцяноўцы. Тут час быццам затрымаўся ў месцы.

Жывуць у вёсцы Зарэцкія, Давідзюкі, Ляўкоўскія, Сэвэрыны. Спадарыня Ніна хваліць ветлівых суседзяў. Яны добразычлівыя, ніколі не адмовяць у дапамозе.

(яц)

# Хто па грыбы, а хто на рыбалку

У чэрвені ў лясах Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета паказаліся першыя сёлетнія грыбы. І ў лес завіталі грыбнікі. Яны збіраюць пліскі, маслякі, бабкі і краснюкі.

Вудзільшчыкі ездзяць лавіць рыбу на Семяноўскае возера. У Семяноўскім вадасховішчы зараз водзіцца шмат відаў рыб, між іншым, амуры, плоткі, шчупакі, акуні, ляшчы, сомы, судакі, язі, жэрахі.

12 чэрвеня гэтага года рыбалоўвудзільшчык Канстанцін Целушэцкі з Новага Ляўкова злавіў даволі вялікага жэраха (bolenia). Іншаму рыбалову папаў на кручок, між іншым, сом.

Тэкст і фота Янкі Целушэцкага



# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

**1.** доўгі высокі земляны насып = 10 _ 11 _ 16 _;
**2.** звярок з вострымі іголкамі на спіне = 20 _ 2 _ 3 _ 5 _ 1 _;
**3.** хімічны элемент н-р 53 = 12 _ 14 _;
**4.** левы прыток Волгі = 18 _ 19 _ 8 _ 7 _;
**5.** егіпецкі паўвостраў = 6 _ 17 _ 4 _ 21 _ 13 _;
**6.** кухонны хларыд натрыю = 9 _ 15 _ 22 _ 23 _.

(ш)

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | | | |
| | | | | | | 6 | 7 | 8 |
| 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | | | | |
| | | | | | 14 | 15 | 16 | 17 |
| | | | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 21 нумара**
Бас, дуга, мумія, Пекін, сена, сеча, тур.
Рашэнне: **Трус у час небяспекі думае нагамі**.

# 21.06 — 27.06

**(22.03. — 20.04.)** Да 25.06. удалыя вяртанні. Хтосьці з даўніх гадоў паявіцца на тваёй арбіце. Тым разам не дасі ўцячы шчасцю! Зацікаўся натуральнай медыцынай. З 25.06. пачнуцца шанцы для ўзмацнення тваёй прафесійнай пазіцыі. Удадуцца справы, якія патрабуюць тактычнасці, далікатнасці і дыпламатыі. Пакуль не пачынай больш амбітных дзеянняў.

**(21.04. — 21.05.)** 21-23.06. заўважаць тваю працавітасць і ўмеласці. Калі чакаеш адпаведную асобу для сябе, сустрэнеш яе пасля 24.06. Цікавую прапанову працы можаш знайсці дзякуючы знаёмым або радні — але памятай, што спалучэнне інтарэсаў з сяброўствам не заўсёды ўдаецца. Не лянуйся, не прытварайся, што практыкуеш спорт. Толькі сістэматычны трэнінг прынясе вынікі.

**(22.05. — 22.06.)** Справішся з усімі абавязкамі. Шанцы на паляпшэнне фінансаў пасля 25.06. Але гэта не будзе манна з неба, а прыбыткі з трапных інвестыцый з першай дэкады месяца. Народжаныя з пачатку знака могуць тады атрымаць грошы з кампенсацый ці дафінансаванняў. Насі камень рубін. Пазбягай нават размоў пра хваробы, не лячыся на ўласную руку.

**(23.06. — 23.07.)** Да 23.06. маеш безумоўную падтрымку атачэння. 20-22.06. станеш на ўласных нагах і адчуеш сябе панам сітуацыі. 20-21.06. асвяжэнне даўніх сяброўстваў. З 21.06. адкрывай сваю фірму. 21-23.06. магчымая валакіта ў істотных справах. Можа, паспрабуй вегетарыянскую дыету?

**(24.07. — 23.08.)** 21-23.06. дасць працэнты твая адвага і паслядоўнасць. 21-26.06. хтосьці можа адмовіцца ад дапамогі табе. З 25.06. (да 30.06.) давядзеш да канца кожную запланаваную справу. 20-24.06. будзеш у змозе максімальна ангажавацца ў кожнае мерапрыемства. 21-25.06. не дазволь нікому над сабой дамінаваць. Будзь асабліва асцярожны пры фінансавых спакусах асоб падазронай рэпутацыі. З 25.06. ваша рэляцыя стане глыбейшай. У сямейных спрэчках тваю спеласць і цярплівасць да радні пратэсціруе Марс. Адчуеш, быццам бы ў цябе ўступіла новае жыццё!

**(24.08. — 23.09.)** Будзеш снаваць прыгожыя планы. Наладзіш важныя кантакты. Будзеш упэўнены ва ўласнай прыцягальнасці. Старэйшыя Дзевы сустрэнуць сваё даўняе каханне. 20-22.06. блізкія дакажуць, як многа для іх значыш. 19-23.06. будзеш мець вялікае адчуванне сітуацыі, у галаву заляцяць табе вельмі цікавыя ідэі і праекты. Варта зрабіць сабе метамарфозу.

**(24.09. — 23.10.)** Былі б мілыя і карысныя падарожжы, але лепш пільнавацца працы і трымаць руку на пульсе — можаш шмат здабыць, але і шмат страціць. Але схадзі хоць у лес, з'ездзі на вёску. На працы негацыюй умовы. 21-23.06. павышэнне можа лучыцца з большымі абавязкамі; стаў свае ўмовы. 20-22.06. можаш пачаць ачышчальную дыету, неабавязкова дзеля пахудзення. Не паддавайся націску хатніх і не дай сабе падрэзаць крылаў.

**(24.10. — 22.11.)** 21-23.06. зробіш вялікі прагрэс і заслужыш на прызнанне. У дарозе да мэты хопіць табе сілы. Поспех як рукой падаць! 21.06. горача і рызыкоўна ў пачуццях. 20-22.06. удала ў справах звязаных з хатнім бюджэтам. Для Скарпіёнаў-студэнтаў вельмі добры час — вы здольныя да высілку, а страх перад паразай будзе допінгам. Маніпуляванне інфармацыяй раней ці пазней рассакрэціцца.

**(23.11.—22.12.)** Справішся з усімі супярэчнасцямі. Не старайся з кімсьці захутка братацца. На працы засяродзься на пазітывах. 21-23.06. шэф можа даць табе павышэнне ці прэмію. Але не заседжвайся на рабоце. Крыху змяні свой імідж, памаладзееш. Апетыт на вялікія грошы каб не давёў цябе да працагалізму!

**(23.12. — 20.01.)** 21-23.06. большасць праблем вырашыцца сама па сабе. 20-24.06. можаш здабыць чыёсьці сэрца. 21-23.06. заплануй з каханай асобай, каб быць толькі ўдваіх. Твой козыр — непахісная прынцыповасць, вернасць, трываласць, а таксама манеры. Умела спалучыш прыемнае з карысным. 20-23.06. паразмаўляй з шэфам. З 27.06. можаш здзейсніць штосьці вялікае!

**(21.01. — 19.02.)** 20-23.06. можаш адчуць сябе горш, не ператамляйся. Менш прыхільная аўра аколіць цябе пасля 21.06., але зоркі памогуць табе спакойна адчакаць гэты час. Затое вялікія ўдачы ў іншага полу. Пасля 25.06. будзеш упэўнены, што гэта тая асоба, з якой можаш планаваць будучыню. Засяродзься на здароўі, парабі медабследаванні. Умела загарай, каб не спаліцца. Не чапай жалезнага запасу.

**(20.02. — 21.03.)** 21.06. пераканаешся, што ты ў змозе зрабіць. 21-23.06. можаш смела хапаць кожную нагоду. Пасля 25.06. Венера ўвойдзе ў просты рух, зразумееш, што ад кахання хочаш чагосьці іншага. На пакупках не забудзь пра памаладкі кветак на балкон ці ў агародчык. Пры ўласнай дзейнасці не закапайся ў паперах; дазволы могуць спозніцца або ўвогуле не прыйсці.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірослава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.




**Шэсць гадоў таму наведаў я месца па былым гітлераўскім лагеры смерці Трэблінка. Сёлета зноў здарылася нагода там пабываць. За той час галоўны мемарыял не змяніўся, але паявілася і навінка — стужка, развешаная ўздоўж дарогі ад аўтамабільнай стаянкі і музея да галоўнага мемарыяла. На той стужцы напісаны імёны і прозвішчы шматлікіх ахвяр. Памяць па іх мела счэзнуць бясследна, аднак музею ўдаецца здабываць іх персаналіі...**

Месца, дзе быў заснаваны лагер смерці, знаходзілася недалёка вёскі Трэблінка і аднайменнага чыгуначнага прыпынку, што ў сямі кіламетрах ад Малкіні ў напрамку Седльцаў на акраіне цяперашняй Косаўскай гміны Саколаўскага павета. Работы па закладцы лагера пачаліся вясной 1941 года. Завозілі туды палякаў, большасць з якіх пасля вызвалялася; пазней сталі прывозіць туды яўрэяў, якія амаль ніколі не выходзілі адтуль жывымі. У маі 1942 года побач пачаліся сакрэтныя работы па закладцы лагера смерці; работы былі завершаны 22 ліпеня 1942 года. І ўжо з наступнага дня па спецыяльна пракладзенай чыгуначнай ветцы сталі туды прыязджаць эшалоны з яўрэямі.




Спачатку адбываўся ўступны адбор ахвяр. Прывезеным забіралі ў першую чаргу каштоўнасці, а пасля і ўсё іншае. Людзей ліквідавалі ў газавых камерах; спачатку былі гэта тры памяшканні плошчаю ў 16 квадратных метраў, а з восені 1942 года дабавілі яшчэ дзесяць удвая большых. Калі іх напаўнялі людзьмі, падавалі туды выхлапныя газы ад няспынна працуючых цяжкіх танкавых рухавікоў. Цягам двух першых месяцаў у лагеры загінула звыш чвэрці мільёна яўрэяў з Варшавы і амаль паўмільёна з іншых тэрыторый Генеральнага Губернатарства. З верасня 1942 года па студзень 1943 года загінула там больш за дзесяць тысяч яўрэяў з тадышняй Беластоцкай акругі.



Мяркуецца, што ў Трэблінцы загінула каля 870 тысяч чалавек. Са снежня 1942 года да мая 1943 года штодзённа прыбывала ў Трэблінку па некалькі эшалонаў з ахвярамі — у кожным эшалоне па сама менш 60 вагонаў, а ў кожным вагоне па 150 чалавек. У сакавіку 1943 года, неўзабаве пасля Сталінградскай бітвы, Трэблінку наведаў Гімлер і з таго часу пачалося паступовае згортванне лагера. Пачалося спальванне трупаў на агромных кратах з чыгуначных рэек, а попел вывозілі навонкі лагера. З мая 1943 года рэзка скарацілася колькасць прыбываючых у Трэблінку транспартаў...

2 жніўня 1943 года ў лагеры ўспыхнула паўстанне, зладжанае вязнямі, якім удалося здабыць не толькі сякеры, нажы і дубінкі, але таксама і агнястрэльнае ружжо. Паўстанцам удалося забіць некалькіх нямецкіх эсэсаўцаў і іхніх украінскіх памагатых, аднак была выклікана падмога і паўстанне было здушана. Цераз праломы ў агароджы ўдалося шматлікім вырвацца навонкі; у жывых асталося каля шасцідзесяці вязняў, якія данеслі свету пра існаванне лагера. Таксама навакольнае насельніцтва, якому гітлераўцы даручалі вываз попелу, унесла свой уклад у абнародаванне праўды пра тамашні лагер смерці...

Як падае Яўрэйская электронная энцыклапедыя, памяць пра сотні тысяч замучаных у Трэблінцы людзей замоўчвалася. Мясцовыя жыхары і салдаты з недалёкай савецкай базы перакопвалі зямлю ў пошуках залатых зубоў і іншых каштоўнасцей. І толькі пасля амаль двух дзесяцігоддзяў пасля заканчэння Другой сусветнай вайны пад ціскам міжнароднай грамадскасці на месцы лагера быў узведзены мемарыял у выглядзе могілак, дзе сотні камянёў; на некаторых выгравіраваны назвы мясцовасцей, адкуль паходзілі ахвяры...

Пасля заканчэння вайны былі суджаны члены лагернага персанала; некаторыя былі засуджаны да пажыццёвага зняволення, некаторыя атрымалі меншыя прыгаворы. У 1987-1988 гадах у Іерусаліме адбыўся судовы працэс Івана Дэмянюка, якога ўцалеўшыя вязні Трэблінкі ідэнтыфікавалі з украінскім вахманам па клічцы Іван Грозны; да таго часу Дэмянюк сорак гадоў жыў у ЗША. Іерусалімскі Акружны суд прыгаварыў Дэмянюка да смяротнага пакарання, аднак Вярхоўны суд Ізраіля не змог даказаць ідэнтычнасці Дэмянюка з Іванам Грозным і вызваліў яго.

* * *

На мемарыяльнай плошчы мноства камянёў, якія традыцыйна выконвалі ролю яўрэйскіх намагільнікаў. Шмат з іх ананімных, бо ж не вядомы ўсе мясцовасці, з якіх жыхары трапілі ў трэблінскі лагер смерці. На адным з найбольш відных месцаў сімвалічны намагільнік Януша Корчака — польскага педагога, пісьменніка, лекара і грамадскага дзеяча. А ў пачатку мемарыяла камяні з назвамі шматлікіх мясцовасцей цяперашняй Беласточчыны. Найперш Нарва, Орля, Беласток, Браньск, Заблудаў, Кузніца, Гарадок, Ялоўка, Саколка...

У Нарве, як падае партал Штэтл, жыды паявіліся каля 1560 года. Каля 1580 года нарваўскіх жыдоў абвінавацілі ў рытуальным забойстве — іх прагналі з Нарвы і нават сто гадоў пазней няма пра іх прысутнасць у горадзе згадкі. Калі яны зноў з'явіліся ў Нарву, партал не падае. У першай палове XIX стагоддзя стаўляюць у Нарве сінагогу, а на яе месцы ў пачатку XX стагоддзя ўзводзяць новую, драўляную; будынак згарэў у 1973 годзе. У 1939 годзе ў Нарве пражывала каля трохсот жыдоў. У палове 1941 года жыдоўскіх жанчын і дзяцей з Нарвы вывезлі ў пружанскае гета, адкуль у пачатку 1943 года вывезлі іх у Аўшвіц. Мужчыны асталіся ў гета, створаным у самой Нарве; у лістападзе 1942 года трапілі яны ў бельскае, затым у беластоцкае гета, а адтуль у лютым 1943 года ў Аўшвіц і Трэблінку...

Згаданы партал Штэтл згадвае пра Пружаны пры нагодзе жыдоўскіх дэпартацый з іншых гарадоў, затое няма ў ім апісання жыдоўскай прысутнасці ў горадзе і яе лёсу ў час халакоста. Каб даведацца больш, трэба было пашукаць у іншых крыніцах, якія падаюцца даволі хаатычнымі; аднак на нечым трэба грунтавацца... Жыды паявіліся ў Пружанах у палове XIV стагоддзя і цягам наступных складалі значную частку насельніцтва горада: напрыклад, паводле перапісу 1897 года складалі яны дзве трэці насельніцтва горада; падобны ўдзел быў зафіксаваны і ў 1921 годзе — у Пружанах пражывала тады каля шасці з паловай тысяч яўрэяў. У жніўні 1941 года ў Пружаны былі даселены жыдоўскія жанчыны з дзяцьмі з Нараўкі і Гайнаўкі. У канцы верасня таго ж года было там створана гета. У кастрычніку 1941 года ў Пружаны было пераселена каля чатырох з паловай тысяч жыдоў з Беластока, а неўзабаве дзве тысячы з навакольных мясцовасцей, м.інш. з Бярозы, Камянца, Слоніма, Івацэвіч... Цягам зімы 1941/1942 года ад голаду і холаду памерла каля шасці тысяч чалавек з васямнаццаці тысяч насельнікаў пружанскага гета. У канцы студзеня 1943 года гета было зліквідавана, а яго насельнікі вывезены ў канцлагеры...

Слоў некалькі варта прысвяціць гміннаму цэнтру — Косаву-Ляцкаму. Як сама назва падказвае, побач павінен быў знаходзіцца і іншы Косаў. І такі ў час позняга сярэдневякоўя быў, з царквою — Косаў-Рускі; гэтая назва захавалася і ў сённяшняй тапаніміі. Аднак з ходам часу Косаў моцна памяняў сваё традыцыйнае аблічча і ў канцы XIX стагоддзя 97% насельніцтва мястэчка складалі ўжо яўрэі. З прыходам нацыстаў, у канцы 1939 года было створана там гета, у якое ў наступныя месяцы былі даселены яўрэі з шырокага наваколля — з Млавы, Вышкава, а нават з далёкага Каліша. 22 верасня 1942 года пачалася ліквідацыя косаўскага гета і, можна сказаць, амаль усё насельніцтва мястэчка апынулася ў блізенькім лагеры смерці.

Нядаўна ў гэтым месцы была згадка пра распаложаны недалёка, на правым беразе Буга гарадок Брок. Партал Штэтл: „Несумненна, прысутнасць яўрэйскай грамадскасці прыдавала мястэчку каларыту. Першыя курортнікі лічылі абычаі старазапаветных атракцыяй, прыглядаючыся з зацікаўленнем, як жыды, стоячы на беразе ракі, вытрасалі свае грахі на бягучую ваду. Так было ў жыдоўскі Новы год і ў Свята трубак. Раздаваўся тады голас бараніх рагоў, а прававерныя яўрэі здзяйснялі тады сімвалічнае ачышчэнне з грахоў...". У 1942 годзе брокаўскія жыды былі вывезены ў Трэблінку...

Было нядаўна таксама і пра Аўгустаў. У 1939 годзе ў Аўгуставе пражывала каля чатырох тысяч яўрэяў. З прыходам нацыстаў, ужо ў чэрвені 1941 года расстралялі яны пад тысячу тамашніх жыдоўскіх мужчын. У кастрычніку 1941 года ў Аўгуставе было створана гета, а годам пазней пачалася яго ліквідацыя. Усіх вязняў гета гітлераўцы выселілі ў этап у Богушах каля Граева, адкуль неўзабаве вывезлі ўсіх у Аўшвіц-Біркенаў і Трэблінку.

Амаль у кожным навакольным нам мястэчку яшчэ васемдзесят гадоў таму жылі старазапаветныя, якія ўносілі крыху іншыя элементы грамадскага ландшафту, уносілі своеасаблівы каларыт. А пасля той каларыт крыху змяніўся; Яўрэйская электронная энцыклапедыя: „В первые годы после освобождения около двух тысяч евреев вернулись в Гродно, однако общинная жизнь не была восстановлена. К 1960-м гг. в Гродно не было синагоги. Еврейское кладбище было распахано в середине 1950-х гг., а надгробья использованы при постройке памятника Ленину".

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960
25